# Кансультацыя па завочнаму навучаньню

**Запытаньне:** Ці маюцца завочныя курсы па рахункаводзтву і якія ўмовы прыёму?

**Адказ:** У сыстэме Беларускага Рэспубліканскага Інстытуту завочнай падрыхтоўкі сельскагаспадарчых кадраў, завочных курсаў па рахункаводзтву няма.

1. Ёсьць завочныя курсы па капірвучоту пры Акц. Т-ве „Оргстрой“ (Москва 12, Рыбный 2, помещение 31). Курс навучаньня разьлічан на 2 ¹/₃—3 мес. (140 гадзін). Прыём заяў праводзіцца круглы год. Прымаюцца работнікі вучоту. Увесь вучэбны матар'ял і прылады (картатэку, дошку, блянкі і інш.) завочнік атрымлівае ад курсаў. Кошт навучаньня са ўсімі прыладамі—47 руб., без капірвучотнай дошкі—30 руб. Першы ўзнос 15 руб. За камандыраваных плаціць тая ўстанова, якая камандыруе. Праспэкт курсаў высылаецца дарэмна.

2. Падрыхтоўка і перападрыхтоўка работнікаў вучоту для МТС і МТМ (машына-трактарных майстэрняў) праводзіцца завочнымі рахункова-эканамічнымі курсамі Трактарацэнтру (Москва, Мясницкая, почт. ящ. 1038). Маюцца курсы—а) бухгальтароў, на якія прымаюцца пом. бухгальтароў і бухгальтары МТС і МТМ і б) рахункаводаў, на якія прымаюцца рахункаводы МТС і МТМ. Тэрмін навучаньня 1 г. Заявы і анкеты, па ўстаноўленай форме, падаюцца праз мясцовыя МТС і МТМ. Кошт навучаньня на курсах бухгальтароў—43 руб. і курсах рахункаводаў—39 руб. Мясцовыя МТС і МТМ зьвяртаюць завочніку кошт яго навучаньня па атрыманьні ад яго пасьведчаньня аб сканчэньні курсаў. За даведкамі зьвяртацца ў МТС і МТМ.

3. Падрыхтоўку спэцыялістаў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі ў галіне фінансаў, крэдыту і вучоту праводзіць Усесаюзны Завочны інстытут Фінансава Эканамічных і рахунковых навук Наркамфіна СССР і „Ору“ (Об'единение работников учета) (Москва, цэнтр Никольская ул., пер. Блюхера, № 3). Тэрмін навучаньня ў Інстытуце—3 гады, у тэхнікуме—2 гады. На вучотна-эканамічным факультэце Інстытуту і тэхнікуму маюцца сельскагаспадарчыя аддзяленьні. Там-жа маюцца і кароткатэрміновыя (8—9 мес.) курсы па падрыхтоўцы работнікаў вучоту і інш. Даведнікі аб умовах прыёму можна атрымаць пісьмова і вусна па адрасу: Менск, Савецкая, 45, Наркамфін БССР.

Аб'явы аб розных курсах і навучальных установах, якія праводзяць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў шляхам завочнага навучаньня, зьмяшчаюцца ў газэтах і часопісах.

Па пытаньнях камандыровак на завочныя навучальныя ўстановы неабходна зьвяртацца да адміністрацыі або прафарганізацыі тэй установы, дзе працуеш.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Шляхі Калектывізацыі

6
1932
САКАВІК

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ

**Перадавая.**—На барацьбу за высокі ўраджай.

**Рачыцкі.** — Перадавую агратэхніку—на службу сацыялістычнаму земляробству.

**М. Варанецкі.** — Кожны аграном адказвае за высокі ўраджай.

**Анатоль Шустры.** — Недапусьціць зрыву пляну пасеву ільну.

**М. І.**—За высокую якасьць перадпасяўной апрацоўкі глебы.

**А. М.** — Вывучым мінэральныя ўгнаеньні.

**К. А.**—Шырэй выкарыстаць торф на ўгнаеньне.

**А.**—Што дае вапнаваньне глебы.

Ворагі высокага ўраджаю.

**Маркавец** (аграном).—Больш увагі мерапрыемствам па барацьбе з хваробамі лёну.

**Г. М-н.**—Больш увагі агратэхніцы.

**М. Шэшка.**—Па-баявому рыхтуемся да сяўбы.

**І. П.**—Узяць ударныя тэмпы.

Новы спосаб вызначэньня ўсхожасьці насеньня ільну.

**А. Сюбараў.**– За выкананьне плянаў пладова-ягаднай гаспадаркі.

**В. Крэйдзіч.** — Як прапрацоўваць заданьне завочніку.

Кансультацыя па завочнаму навучаньню.

**А.** (аграном). — Больш увагі ахове сацыялістычнага ўраджаю садоўніцтва.

Увага селькораў і зборшчыкаў падпіскі.



## На барацьбу за высокі ўраджай!

Ніводная краіна ў сьвеце ня мае такіх шырокіх магчымасьцяй і спрыяючых умоў для павышэньня ўраджайнасьці, як наш Савецкі Саюз. Намі вырашана сусьветна-гістарычнай важнасьці задача стварэньня буйных саўгасаў. Пераважная большасьць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак СССР аб'яднана ў калгасы, а ў важнейшых сельскагаспадарчых раёнах завяршана ў асноўным суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва, як клясы. З кожным годам усё больш павышаецца тэхнічная ўзброенасьць сацыялістычнага земляробства. У гэтым годзе на калгасных палёх будзе працаваць звыш трох тысяч машына-трактарных станцый.

Савецкі Саюз стаў краінай самага буйнага і перадавога земляробства ў сьвеце. Аднак, па ўраджайнасьці нашых палёў мы далёка яшчэ адстаем ад перадавых капіталістычных краін. Мы далёка не скарысталі яшчэ ўсіх магчымасьцяй і пераваг буйнага сацыялістычнага земляробства для павышэньня ўраджайнасьці.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) высунула цэнтральнай задачай у галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці на гэты год і бліжэйшае пяцігодзьдзе—барацьбу за ўраджай. Партыйныя, савецкія, камсамольскія арганізацыі, калгасная сыстэма і ўвесь агратэхнічны пэрсанал павінны мабілізаваць усю сваю ўвагу на выкананьне гэтай задачы. Надыходзячую веснавую сяўбу мы павінны правесьці пад знакам барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Правільны севазварот, высокая якасьць апрацоўкі глебы, пасеў добраякасным насеньнем, максымальнае скарачэньне тэрміну сяўбы—галоўнейшае ў барацьбе за высокі ўраджай, адна з рашаючых умоў умацаваньня калгасаў.

Асноўнай прычынай нізкіх ураджаяў зьяўляецца тое, што ў большасьці саўгасаў і калгасаў недаацэньваюць элемэнтарных асноў агратэхнікі. Такое становішча надалей нецярпіма. На барацьбу за аўладаньне агратэхнікай, за высокія ўраджаі сацыялістычных палёў трэба ўзьняць усе калгасныя масы, рабочых саўгасаў і МТС.

**„Тэхніка ў пэрыяд рэконструкцыі рашае ўсё“** (Сталін). Гэтыя словы правадыра нашай партыі азначаюць у адносінах сельскай гаспадаркі ня толькі тое, каб навучыцца аўладаць сельскагаспадарчай машынай, але і аўладаць агратэхнікай. Трэба ўмець прымяняць і выкарыстоўваць у сельскай гаспадарцы ўсе дасягненьні сучаснай агранаміі.

**„Для таго, каб нашы масывы сапраўды сталі суцэльнымі, сапраўды адзінымі, трэба зьнішчыць сьляды барбарскай гаспадаркі аднаасобніка, трэба пераараць зямлю па-сучаснаму, трэба зямлю ачысьціць ад дзесяткаў пакаленьняў сарнякоў, трэба прыступіць да ўвядзеньня севазварота, трэба, па-просту гаворачы, перавесьці зямлю з барбарскага становішча ў культурнае“** (Якаўлеў). Аграномы павінны быць у першых шэрагах барацьбітоў за перавод калгасных палёў з барбарскага становішча ў культурнае. Цэнтр цяжару ўсёй работы агранома павінен быць перанесен у саўгас і калгас.

Спэцыялісты Ўсебеларускага агратэхнічнага зьезду, які адбыўся ў першай палове сакавіка гэтага году, узялі на сябе сацыялістычныя самаабавязацельствы—павысіць ураджайнасьць: па ільнавалакну ў сярэднім па БССР ня менш 2,6 *цнт* з *га*, па каноплях—ня

менш 4,1 *цнт* з *га*, па гародных культурах—ня менш 107,4 *цнт* з *га*, па збожжавых—ня менш 9 *цнт* з *га*, па бульбе—ня менш 112 *цнт* з *га*, па канюшыне—ня менш 35 *цнт* сена з *га*, па віцы—ня менш 32,1 *цнт* сена з *га*. Спэцыялісты сельскай гаспадаркі павінны мабілізаваць усю сваю энэргію на выкананьне і перавыкананьне ўзятых на сябе самаабавязацельстваў, на забесьпячэньне агратэхнічнымі мерапрыемствамі саўгасаў і калгасаў для атрыманьня найвышэйшых ураджаяў.

Разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі зьяўляецца галоўнейшай задачай на бліжэйшы час у сельскай гаспадарцы. XVII канфэрэнцыя УсеКП(б) паставіла задачу для другой пяцігодкі ў галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі **„дабіцца такога павялічэньня стада і роста таварнай прадукцыі, якая адпавядала-б вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэтага партыя дабілася ў першую пяцігодку ў адносіне да збожжавай праблемы“** (з рэз. канфэрэнцыі УсеКП(б). БССР зьяўляецца адным з галоўнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага Саюзу. Шляхам далейшай распрацоўкі агратэхнічных мерапрыемстваў і ўкараненьня іх у практыку сацыялістычнай жывёлагадоўлі, трэба забясьпечыць павышэньне прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі. Трэба па-бальшавіцку змагацца за давядзеньне ўдойнасьці малочнай жывёлагадоўлі ў гэтым годзе па саўгасах ня менш 1.600 літраў і па калгасных фэрмах ня менш 1.300 літраў малака. У сьвінагадоўчых гаспадарках змагаюцца за атрыманьне ад аднэй сьвінаматкі па саўгасах ня менш 1,8 і па калгасных фэрмах—ня менш 1,5 апаросу ў год. Трэба дабіцца таго, каб на працягу 1932 г. пагалоўе маладняка рагатай жывёлы было давед зена ня менш, як 469.582 штук.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) сваёй пастановай ад 4 лютага паставіў задачу замацаваньня за калгаснай брыгадай пэўнага вытворчага вучастку на ўвесь год, з павышэньнем ацэнкі працадня брыгады ў залежнасьці ад атрыманьня з гэтага вучастку ўраджаю. Таму калгасныя брыгады павінны адыграць выключную ролю ў барацьбе за высокі ўраджай, за ўнядрэньне агратэхнікі. На аснове шырока разгорнутага сацспаборніцтва і ўдарніцтва—брыгады павінны няўстанна змагацца за высокі ўраджай на замацаваных за імі вытворчых вучастках. Кожная брыгада, кожны ў паасобку калгасьнік павінны памятаць, што ў залежнасьці ад ураджаю будзе павышацца ацэнка працадня.

Кожны год мы маем вялікія страты з-за дрэннай уборкі. Таму, у рабочых плянах веснавой сяўбы—саўгасы, калгасы і машына-трактарныя станцыі павінны ня толькі прадугледзіць усе мерапрыемствы своечасовай і добраякаснай сяўбы, але і ўборкі ўраджаю. Кожны саўгас, кожны калгас і МТС павінны зараз ужо падрыхтавацца да бесьперапыннага палявога пэрыяду, пачынаючы ад веснавой сяўбы і канчаючы абмалотам, з тым, каб не дапусьціць страт ураджаю.

Галоўнейшай умовай пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай саўгасных і калгасных палёў—гэта ажыцьцяўленьне шасьці гістарычных умоў тав. Сталіна. Правільная арганізацыя працы на аснове зьдзельшчыны, ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі павінна быць поўнасьцю праведзена ў кожным саўгасе, калгасе і МТС.

Збор насеньня—цэнтральная задача на даным этапе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Своечасовая падрыхтоўка насеньня, добрая якасьць яго—першая ўмова пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў. Партыйныя арганізацыі павінны мабілізаваць шырокія масы калгасьнікаў і беднякоў і серадня коў-аднаасобнікаў на хутчэйшы збор насенных фондаў. Трэба памятаць, што барацьба за насеньне ёсьць барацьба за высокі ўраджай.

Клясавы вораг—кулак заядла выступае супроць усіх мерапрыемстваў партыі і ўлады, на кожным кроку стараецца пашкодзіць арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў і гэтым самым падарваць наша пасьпяховае калгаснае будаўніцтва. Мы, бязумоўна, сустрэнемся з кулацкім супраціўленьнем і на фронце барацьбы за ўраджай. Кулак зараз ужо, скарыстоўваючы дробнаўласьніцкія настроі адсталай часткі калгасьнікаў, імкнецца сарваць загатоўку насенных фондаў. Задача партыйных ячэек—павысіць клясавую пільнасьць. Арганізаваць калгасныя масы і беднякоў і серадня коў-аднаасобнікаў на барацьбу з кулаком, на пасьпяховае завяршэньне падрыхтоўкі да сяўбы. Кожны камуніст павінен памятаць, што, чым мацней будзе ўдар па кулаку і яго агентах—правых і „левых“ апартуністых, тым пасьпяховей будзе барацьба за ўраджай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Наш Савецкі Саюз стаў краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце. Мы можам і павінны стаць краінай самых высокіх ураджаяў. Савецкія і калектыўныя гаспадаркі павінны стаць такімі-ж узорнымі па вытвару хлеба, мяса і сельскагаспадарчай сыравіны, як і нашы фабрыкі жалеза, нафты, вугалю, сельскагаспадарчых машын.

**У паход за высокі ўраджай сацыялістычных палёў!**

---

# Да выхаду ў поле застаўся лічаныя дні. Усе сілы на засыпку насенных і страхавых фондаў, на пасьпяховае завяршэньне падрыхтоўкі да сяўбы.

# Перадавую агратэхніку—на службу сацыялістычнаму земляробству

*(З прамовы Наркома Земляробства БССР тав. Рачыцкага на агразаатэхнічным зьезьдзе).*

Правільная Ленінская палітыка партыі і яе ЦК, на чале з тав. Сталіным, рашучы курс на індустрыялізацыю краіны, разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элементы гораду і вёскі і незамірымая барацьба з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі—забясьпечылі рашучыя перамогі ў будаўніцтве сацыялізму ў нашай краіне.

Створана ўласная база для завяршэньня рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі. Савецкі Саюз ператварыўся ў краіну магутнай сацыялістычнай індустрыі і буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Пад кіраўніцтвам партыі і рабочай клясы ў сельскай гаспадарцы **„адбыўся каранны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча занялі сацыялістычныя формы—саўгасы і калгасы“** (з пастановы XVII партканфэрэнцыі).

БССР, як неадрыўная частка Савецкага саюзу, пры яго дапамозе мае вялізарныя дасягненьні ў справе, індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Удзельная вага прадукцыі прамысловасьці БССР складае 51 проц. ад усяе прадукцыі народнай гаспадаркі БССР супроць 24 проц. у 1929 годзе. Калектывізацыяй ахоплена больш паловы ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Сетка саўгасаў складае 332 адзінкі, з пасеўнай плошчай 240 тысяч *га*, супроць 47 тысяч *га* пасеўнай плошчы саўгасаў у пачатку пяцігодкі. Колькасьць МТС да вясны даводзіцца да 57 з трактарным паркам 18 тысяч 400 HP. Рашуча праводзіцца спэцыялізацыя па асноўных відах сельскагаспадарчай вытворчасьці (жывёлагадоўля, тэхкультуры, садоўніцтва і гародніцтва).

Арганізавана ўжо шырокая сетка жывёлагадоўчых, ільняных, садова-гародніх і птушкаводных саўгасных і калгасных таварных фэрм з агульным пагалоўем буйнай рагатай жывёлы 673 тысячы 600 галоў і 608 тысяч 300 сьвіней. Разьмяшчэньне саўгасных і калгасных фэрм праводзіцца ў асноўным у залежнасьці ад напрамку спэцыялізацыі. Найбольшая шчыльнасьць малочных гаспадарак праводзіцца ў Паўночнай частцы і Паўднёвай і сьвінаводнай—у так званай цэнтральнай зоне.

Аднак, побач з гэтымі гігантскімі дасягненьнямі, у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі мы не змаглі выкарыстаць усе перавагі нашага самага буйнага і перадавога земляробства для рашучага павышэньня ўраджайнасьці нашых сацыялістычных палёў і ўзьняцьця прадукцыйнасьці жывёлы.

У галіне ўраджаю мы на многа адсталі ад капіталістычных краін. Асноўная прычына недапушчальна нізкіх ураджаяў—гэта ігнараваньне агратэхнікі, элементарных агранамічных мерапрыемстваў з боку большасьці калгасаў і саўгасаў. Такое становішча надалей нецярпіма **„тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё“**—так сказаў тав. Сталін. Аб гэтым павінны мы добра памятаць. У адносінах да сельскай гаспадаркі гэта азначае: ня толькі навучыцца ўладаць сельскагаспадарчымі машынамі, але



Нарком Земляробства БССР тав. Рачыцкі.

і ўладаць агратэхнікай, умець ужываць і выкарыстоўваць у сельскагаспадарчай вытворчасьці ўсе дасягненьні сучаснай агранаміі.

## У авангардзе масавага паходу за высокі ўраджай павінны ісьці саўгасы, МТС

У галіне саўгаснага будаўніцтва мы павінны скончыць арганізацыйную перабудову саўгасаў у сувязі са спэцыялізацыяй і хутчэйшага асваеньня прырэзаных зямель, забесьпячэньня неабходнай сталай рабочай сілай і інвэнтаром, укараненьне гаспадарчага разьліку і кантролю рублём, правільнай арганізацыі працы, ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі. **Саўгасы павінны стаць авангардам масавага паходу за высокі ўраджай, за новую сацкультуру земляробства.**

МТС—моцны рычаг партыі і рабочай клясы ў сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі і арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Мы павінны дамагчыся такой пастаноўкі справы, каб нашы МТС сапраўды адказвалі за канчатковыя вынікі абслугоўваемых імі калгасаў, каб МТС паставілі **цэнтрам сваёй увагі** барацьбу за якасьць сельскагаспадарчай вытворчасьці, непасрэдна арганізоўваючы калгасныя масы на павышэньне ўраджайнасьці палёў і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі.

У галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў выключную ўвагу трэба зьвярнуць на замацаваньне калгаснай брыгады,—гэтага асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці—выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб замацаваньні за брыгадай сталага вытворчага вучастку на ўвесь год, павышэньне ацэнкі працадзён брыгады ў залежнасьці ад атрыманага ўраджаю, выхаваньне калгаснага актыву.

## Пытаньні севазвароту, насеньня, тэрміны сяўбы і якасьць апрацоўкі глебы

Узьняць ураджайнасьць палёў — гэта першая і грунтоўная задача ўсёй грамадзкасьці, усіх арганізацый і ў першую чаргу нас, работнікаў сельскагаспадарчай вытворчасьці. Першай умовай для гэтага зьяўляецца пераход на правільны севазварот.

У гэту вясну 1932 году мы павінны рашуча ўзяцца за ўвядзеньне севазваротаў па ўсіх саўгасах і калгасах з тым, каб у асноўным у 1933 годзе гэта работа была скончана. Севазвароты пераважна павінны быць травапольнымі, адказваць запатрабаваньням вытворчых плянаў і напрамку тэй ці іншай гаспадаркі, севазвароты павінны быць не складанымі, зразумелымі шырокай масе калгасьнікаў.

Другой умовай павышэньня ўраджаю—гэта якасьць апрацоўкі глебы. Зяблівае ворыва, якасьць насеньня, тэрміны сяўбы, догляд за ўраджаем, барацьба са шкоднікамі сельскагаспадарчых расьлін і іншыя агранамічныя мерапрыемствы.

Нам трэба дамагчыся такога становішча, каб апрацоўку глебы весьці культурна, адпаведна агранамічным запатрабаваньням, а не саматужна. Патрэбна праводзіць пасеў яравых і, асабліва, вядучых культур выключна па зябу. У залежнасьці ад кліматычных умоў і вэгетацыйнага пэрыяду паасобных культур, цьвёрда ўстанавіць пачатак сяўбы і яе канец. Патрэбна зьнішчыць такое становішча, калі мы зацягваем сяўбу да ліпеня месяца. Гэтым самым мы, па-першае, упускаем найбольш спрыяючы час росту расьлін і, па-другое,—праводзім уборку глыбокай восеньню ў пэрыяд дажджоў і замаразкаў.

Мы ставім задачу абавязковай ачысткі і пратручваньня насеньня, што ня толькі павышае ўраджайнасьць, а робіць пасевы больш стойкімі ў зімоўцы і супроць сарнякоў. Выключнае значэньне мае сорт насеньня. Мы павінны паставіць сабе задачай, адшукаць сарты насеньня, якія найбольш адпавядаюць умовам БССР. Трэба стварыць сартавыя насенныя фонды, якія-б забясьпечвалі вызначаныя плошчы па сяўбе.

Такім чынам, трэцяя бальшавіцкая вясна павінна прайсьці пад знакам барацьбы за ўкараненьне севазвароту, за высокую якасьць апрацоўкі глебы і належны догляд за пасевамі,—за ўзорную арганізацыю ўборкі ўраджаю.

Увядзеньне толькі гэтых мерапрыемстваў забясьпечвае ня толькі давядзеньня ўраджаю з *га*, устаноўленых плянамі, а даюць магчымасьць перавысіць гэтыя намёткі. А што гэта так, я прывяду некалькі саўгасаў і калгасаў, у якіх ураджай у 1931 годзе быў значна вышэй ураджаю, які мы намецілі на 1932 год. Прычым, гэтыя гаспадаркі знаходзяцца тут-жа ў нас, у БССР, у такіх-жа умовах, як кліматычных, так і глебавых, як і ўсе астатнія; працуюць тыя самыя людзі, толькі інакш, крыху культурней, прытрымліваюцца агранамічных правіл.

Вось гэтыя гаспадаркі:—калгас „Прагрэс“ Лёзьнянскага раёну, які даверў ураджай лёну з *га* ў 1931 годзе да 4,1 *цнт*; „Новы Шлях“, Шклоўскага раёну—3,1 *цнт* (пры сярэднім ураджаю ў 2 *цнт*). Па бульбе—саўгас „Прылукі“—150 *цнт* з *га*; „Пятроліна“—133,5 *цнт*; калгас „За ўраджай“, Асіпавіцкага раёну—178 *цнт*; калгас „Сноп“—157 *цнт*; калгас „Камунар“, Чырвонаслабодзкага раёну—117,3 *цнт* (пры сярэднім ураджаю па БССР—90 *цнт*).

Па жыце—саўгас „Блонь“—16,8 *цнт*, „Бацэвічы“—13, упамянуты намі калгас „Прагрэс“—13,2 *цнт*, „Зара“—11,8 *цнт* (пры сярэднім ураджаю—ацэнкі экспартнага савету—каля 7 цэнтнэраў).

Значыць неабавязкова шукаць высокіх ураджаяў за мяжой,—яны маюцца вось тут у нас. Наша задача на сёнешні дзень раўняцца па гэтых перадавых гаспадарках, вучыцца ад іх, пераносіць іх вопыт у адстаючыя.

## Скарыстаць усе віды ўгнаеньня

Наступнае пытаньне, на якое я хачу зьвярнуць увагу зьезду—гэта ўгнаеньне глебы і скарыстаньня мясцовых відаў угнаеньня, як торф, попел, вапна і г. д.

Я думаю, што няма тут ніякай патрэбы вам даказваць, што пытаньне ўзьняцьця ўраджайнасьці залежыць ад угнаеньня, праз якое мы павышаем пладароднасьце глебы. Тут адыгрываюць ролю ня толькі колькасьць угнаеньня, а і рацыянальнае ўнясеньне і **сваячасовае ворыва.**

Возьмем такія віды ўгнаеньня, якія мы сёньня лічым нават дэфіцытнымі, як супэрфасфат, фасфарыт і якія нажаль поўнасьцю не скарыстоўваем.

Той факт, што ў мінулым годзе засталося, прыкладна, каля 100 вагонаў завезенага ўгнаеньня нескарыстанага, пры наяўнасьці, калі гэта ўгнаеньне патрэбна было для бульбы і іншых культур, я лічу, што гэты факт можа тлумачыцца выключна нашай недаацэнкай, нашай няўвагай да гэтага важнейшага пытаньня.

Другое пытаньне—скарыстаньне торфу.

Пры наяўнасьці багацьцяў торфу ў радзе саўгасаў і калгасаў, мы адначасова маем такія зьявішчы, калі ў гэтай гаспадарцы, падчас, салома завозіцца з Украіны, з іншых раёнаў рэспублікі.

Мы ведаем аб тым, што торф па сваёй якасьці мала чым горш саломеннага гною.

Мы таксама ўжо тры гады праводзім работу па вапнаваньні глебы, якая таксама дае пэўныя вынікі, поўны ўплыў на павышэньне ўраджайнасьці. Што мы маем у натуры? У натуры мы маем, што нязначная колькасьць саўгасаў і калгасаў выканалі свой плян, які быў намечаны па вапнаваньні, дзякуючы чаму млыны, якія працуюць па размолу вапны, загружаны вапнаю, а вапна ня вывозіцца. Мы яшчэ як сьлед не ўзяліся за гэтую справу.

Наступнае пытаньне—гэта сэдэрацыя. Мне здаецца, што мы гэту справу недаацэньваем. Возьмем прыклад. Усходняя Прусія (Германія), якая па сутнасьці ў свой час выйграла на лубіне і іншых зялёных угнаеньнях, дабілася высокіх ураджаяў. У нас умовы, прыкладна, кліматычныя, глебавыя, такія-ж самыя, як і Усходняй Прусіі.

Мы гэтую справу як належыць не разгарнулі і значную долю віны павінны ўзяць на сябе.

Усе гэтыя мерапрыемствы, якія накіраваны для павышэньня ўраджаю, павінны праводзіцца ў жыцьцё больш рашуча. Мяккацеласьці тут ня месца.

## За высокую прадукцыйнасьць жывёлагадоўлі

Наступнае асноўнае пытаньне, якое мае выключнае значэньне ня толькі для БССР, але і ўсяго Савецкага саюзу—гэта вырашэньне цэнтральнай праблемы сельскай гаспадаркі—разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Ломка старой вёскі, якую мы мелі ў апошнія гады, супраціўленьне кулацтва, меўшыя месца перагібы пры аграмаджваньні жывёлы—усё гэта ў значнай ступені адбілася на становішчы нашага стада і па некаторых відах мы нават маем зьніжэньне.

Нашым абавязкам у 1931 годзе было накіраваць усе сілы для таго, каб захаваць маладняк і павысіць прадукцыйнасьць стада. Аднак, мы гэту важнейшую задачу выканалі нездавальняюча. З ацёлу, прыкладна, 1 мільён кароў захавалі цялят усяго каля 200 тысяч супроць 700 тысяч, прадугледжаных па пляну. Закон, які быў выдадзены аб забароне забою жывёлы мы ня выкарысталі і не карысталіся ім.

У гэтым годзе мы намецілі па пляну захаваць 405 тысяч цялят; патрэбна ва што-б та ні стала гэту задачу выканаць.

Мы павінны не дапусьціць памылак мінулага году, якія мелі месца ў нашай рабоце.

Нельга гэтак таксама дапусьціць такога зьявішча, калі 15 процантаў кароў і 25—30 процантаў сьвінаматак ялавеюць, ад чаго мы не даатрымліваем дзесяткі, сотні тысяч галоў маладняка. Безгаспадарчасьць, абязьлічка, холад, бруд на таварных фэрмах калгасаў і ў саўгасах зьяўляецца прычынай вялікага адыходу маладняка, і, асабліва, парасят. У паасобных гаспадарках, дзякуючы нікудышнай пастаноўцы справы, адыход дасягае да 50—60 процантаў ад апоросу. Па гэтым важнейшым вучастку мы яшчэ не арганізавалі працы, не ліквідавалі абязьлічкі, не паставілі працаваць на скотных дварох лепшых калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, не зацікавілі іх матар'яльна. У многіх гаспадарках пануе абязьлічка.

Падабраць і замацаваць на гэтую справу лепшых людзей, ліквідаваць абязьлічку і ўраўнілаўку, выжыць з кароўнікаў і сьвінарнікаў бруд, узяць пад асабісты нагляд злучку, апарос, ацёлы, палепшыць догляд асабліва з маладняком—асноўнае што патрэбна правесьці ў жыцьцё ў чым-бы та ні стала.

## Кожны калгасьнік павінен аўладаць агратэхнікай,

Асноўнай і важнейшай умовай для ажыцьцяўленьня і павышэньня ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці стада, а гэтым самым выкананьне асноўнай дырэктывы партыі ў сельскагаспадарчай вытворчасьці,—гэта ўкараненьне агратэхнікі ў сельскую гаспадарку, аўладаньне ёю шырокімі масамі калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС. На гэту справу патрэбна павярнуць усё, не шкадуючы ні сродкаў ні сіл. Таму масавая агратэхпрапаганда зьяўляецца абавязкам кожнага спэцыяліста, дзе-б ён ні працаваў. Побач з правядзеньнем масавых курсаў, патрэбна пакрыць усю рэспубліку гурткамі па вывучэньні агратэхнікі. Такі гурток павінен быць у кожным калгасе, саўгасе. Патрэбна ўзяць курс, каб гурткі ў больш буйных калгасах і саўгасах ператвараць у вячэрнія школы. Не павінна быць ніводнага спэцыяліста па-за кіраўніцтвам такімі гурткамі.

Праграма 1932 году стварае моцную базу для ўступленьня ў другую пяцігодку, якая па сваёй грандыёзнасьці ня мае прэтэндэнтаў на працягу ўсяе гісторыі капіталістычнага сьвету.

Справа гонару кожнага агранома, заатэхніка, усіх навуковых працаўнікоў, працуючых у сельскагаспадарчай вытворчасьці—прыняць актыўны ўдзел у выкананьні гэтых грандыёзных плянаў, будаўніцтве сацыялізму ў нашай краіне.

Ажыцьцяўленьне дырэктывы партыі па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі будзе сустракаць жорсткае супраціўленьне клясавага ворага—кулацтва і яго агентуры, якія будуць імкнуцца падарваць справу сацбудаўніцтва і асабліва ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, у якасным падвышэньні працы калгасаў. Таму, задача ўсіх спэцыялістаў сельскае гаспадаркі мабілізавацца на рашучую барацьбу з супраціўленьнем клясавага ворага і яго агентуры. Спэцыялісты, якія ўжо даказалі адданасьць партыі ў барацьбе за сацбудаўніцтва, яшчэ з большай энэргіяй і энтузыязмам будуць весьці рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі па сацрэканструкцыі сельскае гаспадаркі, аддадуць усе свае веды на будаўніцтва сацыялізму ў краіне Саветаў.

**„Цяпер, калі ў нас шпарка расьце прымяненьне машын, трактароў, камбайнаў і інш., а таксама хэмічных угнаеньняў у сельскай гаспадарцы, мы павінны паставіць пытаньне аб падняцьці ўраджайнасьці ў якасьці цэнтральнай задачы работнікаў сельскай гаспадаркі".**

**(Молатаў).**

# Кожны аграном адказвае за высокі ўраджай

Другі Ўсебеларускі агразаатэхнічны зьезд ні ў якім разе нельга параўнаць з 1-м агразаатэхнічным зьездам, які адбыўся ў пачатку 1929 году і на якім таксама стаяла пытаньне аб павышэньні ўраджайнасьці. За гэты пэрыяд мы маем карэнныя зьмены ў нашай краіне. Рабочая кляса пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным стварыла моцную базу—у асобе саўгасаў, калгасаў і МТС, якая дае магчымасьць па-іншаму паставіць пытаньне пра павышэньне вытворчасьці сельскай гаспадаркі.

Зьезд абавязаўся перад ЦК і ўрадам змагацца за павышэньне ўраджайнасьці—у сваім рапарце ЦК КП(б)Б зьезд на сябе ўзяў канкрэтныя абавязкі. Гэтыя абавязкі павінны быць ва што-б там ні стала выкананы.

Спэцыялісты павінны прыкласьці ўсе сілы і здольнасьці на поўнае ажыцьцяўленьне агразаатэхнічных мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці: па ільна-валакну ў сярэднім па БССР ня менш як на 2,6 *цнт* з *га*, па каноплі-валакну—ня менш 5,1 *цнт* з *га*, па гародных культурах—ня менш 107,4 *цнт* з *га*, па збожжавых культурах—ня менш 9 *цнт* з *га*, па бульбе — ня менш 112 *цнт* з *га*, па канюшыне—сену—ня менш 35 *цнт* з *га* і па віка-сену—ня менш 32,1 *цнт* з *га*.

Разам з павялічэньнем пасеўных плошчаў пад тэхнічныя культуры, бульбу патрэбна аддаць максымум увагі на паляпшэньне тэхнічных і спажывецкіх якасьцяў гэтых культур.

Зараз, калі перад намі стаіць пытаньне ва ўсю шырыню (высунутае Наркамземам БССР тав. Рачыцкім) па павышэньні ўраджайнасьці на 25 проц., неабходна зьвярнуць максымум увагі на збор насенных фондаў, як адну з важнейшых задач у барацьбе за ўраджай і адначасова павінны змагацца за пасьпяховае выкананьне плянаў па сартаваньню насеньня.



Рапарт агратэхнічнаму зьезду калгаса імя Домбаля, Барысаўскага раёну.

Калгасы павінны атрымаць самую актыўную дапамогу ў сартаваньні насеньня з боку спэцыялістаў-аграномаў. Адсюль паўстае задача—кожнаму спэцыялісту, калгасьніку яшчэ больш напружыць сілы пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных арганізацый у барацьбе за высокі ўраджай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Разам з гэтым неабходна павесьці самую рашучую барацьбу супроць такіх выпадкаў, калі асноўныя нашыя агра-спэцыялісты амаль зусім ня бываюць у калгасах (Мазырскі раён). Напрыклад, Ельскі райкалгассаюз зусім нядбайна адносіцца да спэцыялізацыі калгасаў. Гэты райкалгассаюз, прыкладна, так „спэцыялізуе" калгасы: „Вам неабходна засеяць таго—столькі і столькі, здаць дзяржаве „столькі і столькі" і на гэтым уся праца Ельскага райкалгассаюзу па спэцыялізацыі калгасаў канчаецца. Кіраўніцтву працай у калгасах габінэтным парадкам павінен быць пакладзен канец.

У той час, калі мы змагаемся за высокі ўраджай, наша сельскагаспадарчая вытворчасьць шмат цярпіць розных страт. Правядзеньне барацьбы са стратамі ў сельскай гаспадарцы павінна стаць аднэй з цэнтральных задач, памятуючы, што неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на зьнішчэньне тых страт, якія прычыняюць шкоднікі сельскагаспадарчых расьлін. Пры гэтым патрэбна ведаць, што надзвычай шкодна ігнараваць прафіляктычныя меры барацьбы (уборка качарэжак з поля, загінуўшых пладоў і г. д.), а такое ігнараваньне ў нас ёсьць па цэлым радзе саўгасаў, раёнаў.

У гэтым годзе павінен быць зроблен карэнны пералом у бок выпрацоўкі сталых севазваротаў, што забясьпечвае поўнае выкананьне кантрольных лічбаў па павышэньні ўраджайнасьці. У працы па выпрацоўцы севазваротаў ні ў якім разе нельга дапускаць думкі, што гэтая справа—чыста тэхнічная. Пытаньне выпрацоўкі севазваротаў набывае выключнае значэньне, як пытаньне палітычнае, і пры няправільным падыходзе да складаньня севазваротаў могуць быць дапушчаны грубейшыя палітычныя памылкі.

У працівалегласьць старой агранамічнай школе, якая выпрацоўвала севазроты выходзячы з інтарэсаў замкнутай капіталістычнай гаспадаркі, арыентуючыся на стыхійныя рыначныя адносіны і, у сілу сваёй буржуазнай прыроды, ня ўвязваючы севазваротаў з плянавымі заданьнямі—праца па выпрацоўцы сацыялістычных севазваротаў павінна кіравацца такімі неабходнымі прынцыпамі:

Першы (ён-жа і асноўны) прынцып—плянавыя заданьні дзяржавы. Другі прынцып, які неабходна ўлічыць пры ўвядзеньні севазваротаў—гэта нагрузка на адзінку пасеўнай плошчы, павінна быць прынята поўная сыстэма палеводзтва. Пры выпрацоўцы севазваротаў павінна быць улічана мэханізацыя сельскагаспадарчай вытворчасьці, ні ў якім разе не абмяжоўваючыся сёнешнім днём, патрэбна ўлічыць усе тыя працэсы, якія будуць адбывацца ў бліжэйшыя пэрыяды. Пры складаньні севазваротаў павінны быць складзены лепшыя ўмовы для данай гаспадаркі для вядучых культур.

Каб справа павышэньня ўраджайнасьці стала справай гонару шырокіх мас калгасьнікаў, каб шпарчэй

прасунуць агратэхніку ў працоўныя масы—неабходна ў кожным калгасе, саўгасе арганізаваць агранамічныя гурткі.

Некаторыя таварышы ў гэтым сумняваюцца, спасылаючыся на недахоп спэцыялістаў для кіраўніцтва працай гурткоў, але таварышы з такімі сумненьнямі зусім памыляюцца. На месцы можна знайсьці сілы, якія змогуць кіраваць агранамічнымі гурткамі. Напрыклад, ці можна пры дапамозе мясцовых сіл распрацаваць пастановы партыйных і савецкіх арганізацый пра павышэньне ўраджайнасьці, пра паляпшэньне догляду за глебай, па правядзеньні ў жыцьцё агрмінімуму і г. д. і г. д.—бязумоўна можна.

Калі-ж такі гурток маецца ў буйных сацыялістычных гаспадарках—можна і нават неабходна ў бліжэйшы час практыкаваць адчыненьне вячэрніх агразаатэхнічных школ. Справа арганізацыі агранамічных гурткоў павінна атрымаць самае шырокае пашырэньне ў нашых сацыялістычных гаспадарках.

Усю працу і вопыт па павышэньні сацыялістычнага ўраджаю неабходна шырока папулярызаваць на старонках нашага друку, на сходах з тым, каб прыкладныя ўзоры ў барацьбе за павышэньне ўраджаю сталі здабыткам кожнай сацыялістычнай гаспадаркі, кожнага калгасьніка, рабочага саўгасу, МТС і агранома.

Вось рад тых задач, за якія ў штодзеннай сваёй рабоце павінны змагацца нашы спэцыялісты ў калгасах і саўгасах, штодзенна дапамагаючы партыйным і савецкім арганізацыям у актыўнай барацьбе за высокі сацыялістычны ўраджай. **М. Варанецкі.**



Дэлегаты агратэхнічнага зьезду слухаюць даклад тав. Рачыцкага.

## Не дапусьціць зрыву пляну пасеву ільну

(*Полацкі раён*)

Згодна пляну ў гэтым годзе ў Полацкім раёне патрэбна засеяць 7.500 *га* ільну, што дае значны прырост у параўнаньні з мінулым годам. Пад тэхнічнымі культурамі раён абавязаўся давесьці пасеўную плошчу да 10,1 проц. агульнай плошчы раёну ці 21,2 проц. да яравога кліну. Але трэба адзначыць, што гэтыя абавязацельствы выконваюцца дрэнна. Аб гэтым сьведчаць факты.

Маюцца выпадкі яўнага зьмяншэньня пляпаў пасеву ільну па радзе калгасаў. Напрыклад, калгас „Гігант“, Баярскага сельсавету, зьменшыў плян сяўбы ільну на 29 гектараў.

— Лён у нас ня вельмі родзіць,—заяўляе старшыня калгасу.

Такія факты наглядаліся і ў калгасе „Акцябр“, Гомельскага сельсавету. У калгасе „Савецкая Беларусь“, Махіроўскага сельсавету, згодна пляну трэба засеяць 50 *га* ільну, але апартуністычнае кіраўніцтва калгасу палічыла **„немэтазгодным сеяць так шмат ільну“** і скараціла плян на 25 *га*.

Яўна пагражаючая справа і з загатоўкай насеньня ільну. Насеньне, якое мелася ў калгасах, дрэнна ў некаторых выпадках захоўвалася. Так у рэзультаце нядбайнасьці кіраўніцтва ў калгасе „Новы шлях“, Бабыніцкага сельсавету, сапрэла 4 тыс. 478 *кг* ільнанасеньня. Аграном Ветрынскай МТС, які прымацаван да гэтага калгасу нават не паказваўся ў калгас.

Зусім у нездавальняючым становішчы знаходзіцца засыпка насенных фондаў па Ветрынскаму сельсавету, які ўваходзіць у раён дзейнасьці Ветрынскай МТС. Калгас „КІМ“ павінен быў засыпаць 70,4 *цнт* ільнанасеньня, а засыпана толькі 59 *цнт*. У калгасе-ж „Ідэал“ патрэбна засыпаць 64,8 *цнт*, засыпана-ж 13 *цнт*. Калгас „Чырвоны молат“ засыпаў толькі 2,5 *цнт*, замест 19,3 *цнт*, „Свабода“ з патрэбных 72 *цнт* засыпаў толькі 3 *цнт*, „Перамога“ з 74 *цнт* засыпаў 0,5 *цнт*. Такое самае становішча і ў астатніх калгасах „Мопр“, „Аўтадор“.

Такое ганебнае становішча з загатоўкай насеньня ільну Ветрынскі сельсавет ня вельмі турбуе. Сельсавет па ранейшаму спасылаецца на „авось“, на недапушчальны самацёк.

Маецца значны недахоп насеньня ў калгасе „Трактар“ Верхачэнскага сельсавету, „Ленінскі прамень“. У Тураўлянскім сельсавеце ільнанасеньня не хапае на 31 проц. ад патрэбнай колькасьці. Ёсьць і такія выпадкі, калі насеньне (галоўкі) ільну ляжыць у галоўках на таках не абмалочаным (калгас „Прамень Леніна“, Аплейскага сельсавету).

Нельга не адзначыць, што райза і райкалгассаюзам справе сваячасовай загатоўкі насеньня ільну, забясьпечаньня вызначанай плошчы для пасеву ільну насеньнем не аддаецца патрэбнай увагі,

У райза адсутнічае сталы вучот засыпкі насеньня тэхнічных культур; работа апарату райза не перабудавана ў напрамку чоткасьці і апэрацыйнага кіраўніцтва ходам падрыхтоўкі да важнейшай сельскагаспадарчай кампаніі—веснавой сяўбы.

Справа арганізацыі насеннай узаемадапамогі калгасьнікаў, шляхам рэалізацыі аблігацый насеннай пазыкі ў калгасах Полацкага раёну не разгорнута.

Трэба неадкладна пакончыць з стаўкай на самацёк у падрыхтоўцы да сяўбы. 7.500 *га* ільну ў гэтым годзе трэба засеяць, ня менш. Райкалгассаюз, райза павінны неадкладна перабудаваць свой апарат на аснове чоткасьці, апэрацыйнасьці. Усялякую недаацэнку сваячасовай падрыхтоўкі да сустрэчы вясны трэба бязьлітасна выкарчаваць.

**Анатоль Шустры.**

# За высокую якасьць перадпасяўной апрацоўкі глебы

Раньні пасеў зернавых і ўсямернае скарачэньне тэрмінаў пасяўных і перадпасяўных работ зьяўляюцца асноўнай умовай павышэньня ўраджайнасьці.

Перадпасяўную апрацоўку глебы пад яравыя можна падзяліць на наступныя тэхнічныя моманты.

1. Перадпасяўная апрацоўка зябліва і пластоў.
2. Веснавое ворыва.

Важнейшай састаўной часткай веснавых работ—гэта павінны засвоіць сабе зусім выразна ўсе працаўнікі—зьяўляецца магчыма раньні пасеў пры максымальным захаваньні вільгаці ў глебе.

Як толькі сыдзе з поля сьнег патрэбна зараз-жа, як толькі можна выехаць на поле з трактарам ці коньмі, перабаранаваць. Калі зябліва было заворана якасна добра (камкаватае, без агрэхаў), дык баранаваньне ў два сьляды дастаткова добра разрыхляе глебу. Камкаватая, з вялікімі пластамі глеба, якая добра перамерзла, добра рассыпаецца пад уплывам udaраў зубоў бараны. У асноўным на глебах чарназёмных, каштанавых, сярэдня-цяжкіх баранаваньне зябліва ў два сьляды бараной „Зіг-Заг“ зьяўляецца зусім дастатковым для падрыхтоўкі глебы да пасеву. Ускладненьне апрацоўкі, г. зн. прымяненьне апрача барон экстырпатара, дыскаваньня, катка і іншых прылад перадпасяўной апрацоўкі, калі гэта не патрабуецца станам глебы, ня толькі павялічвае ўраджай, а ў некаторых выпадках нават вядзе да паніжэньня яго.

На глебах цяжкіх, якія сплываюцца, дзе баранаваньне не дае дастатковай распрацоўкі, патрэбна прымяняць апрача бараны і інш. прылады рыхленьня. Утварыць якасную ацэнку розных рыхленьняў уне ўвязкі з характарам глебы і вытворчымі асаблівасьцямі гаспадаркі,—няма ніякай магчымасьці. У залежнасьці ад тых ці іншых умоў можна прымяняць культыватар, экстырпатар ці дыскавую барану. Аднак пры рабоце з прыладай патрэбна памятаць, што неабходна ўзрыхліць глебу, як можна менш пераварочваць яе, з тым, каб максымальна захаваць вільгаць.

Патрэбна памятаць, што на каштанавых, якія лёгка сплываюцца, глебах культыватар і дыскавая барана даюць добрыя вынікі.

Шмат якія працаўнікі пры разьмеркаваньні работ у той ці іншай пасьлядоўнасьці ня ведаюць, што рабіць раней—ці баранаваць усё зябліва, а потым ужо сеяць, ці баранаваньне ўтвараць адначасова з пасевам. Усесаюзная канфэрэнцыя па сухменю ў сваіх пастановах зусім пэўна адказала на гэтае пытаньне: „Баранаваньне зябліва павінна зьявіцца першай веснавой работай, пры чым гэта работа павінна быць адразу-ж праведзена на магчыма большай плошчы“. Гэта, вядома, зусім не азначае, што, захапіўшыся баранаваньнем, можна забыць пра сяўбу. Пастанова канстатуе, што першыя дні веснавых работ павінны быць аддадзены баранаваньню, пры чым за гэты час патрэбна забаранаваць як мага большую плошчу, затым пераключыцца на сяўбу, поруч з ёю канчаючы баранаваньне.

Даныя апорных пунктаў і занальных станцый рэзка падкрэсьліваюць гэтую ўмову. Так, па даных Багучарскага вопытнага поля позны пасеў **пры раньнім баранаваньні** паніжае ўраджай усяго на 0,8 цэнтн. з *га*, у той час, як позны пасеў пры **позным баранаваньні** паніжае ўраджай ужо на 2,3 цэнтн. з *га*.

Падрыхтоўка пластоў пад яравыя культуры можа некалькі ўскладніцца ў залежнасьці ад таго, былі яны ўвосень прадыскаваны ці не. Патрэбна сказаць, што пры апрацоўцы цаліны мы маем параўнаўча вельмі нешматлікія даныя, але і тыя, якія маюцца, гавораць, што асеньняе дыскаваньне перад веснавым ніякіх асаблівых пераваг ня мае. У той-жа час дыскаваньне патрабуе даволі значнага часу і затраты сілагадзін і, бязумоўна, ня можа не адцягнуць тэрміну пасеву. Такім чынам, розьніца ў перадпасяўной апрацоўцы пластоў перад зяблівам будзе тая, што пласты патрэбна добра прадыскаваць, калі гэта апэрацыя не прароблена з восені. Калі-ж дыскаваньне прароблена з восені, дык патрэбна абмежавацца баранаваньнем цяжкай бараной у два сьляды.

У гэтую веснавую пасеўную кампанію перад намі паўстае нанава пытаньне аб веснавым ворыве. Яе агратэхнічнае значэньне ўсім вядома—веснавое ворыва вельмі зьніжае ўраджай у параўнаньні з зяблівам, але пры правільнай арганізацыі веснавых работ гэтае паніжэньне можна значна паслабіць. Веснавое ворыва, утворанае сваячасова, з самага пачатку веснавых работ, так, каб яно не асабліва адцягвала пасеў, дае больш ці менш здавальняючыя вынікі. Аднак гаспадарка павінна ўявіць сабе тое, што **наліччa веснавога ворыва ўскладняе веснавую кампанію і патрабуе асаблівай арганізацыйнай дакладнасьці, асабліва ў сваячасовым утвараньні ўсіх веснавых работ.**

Пры наліччы веснавога ворыва пажадана ўтвараць яго і пасеў адначасова, прымяняючы для гэтай мэты букэры. Пры адсутнасьці букэраў ворыва можна ўтвараць плугамі, скараворнікамі і інш. прыладамі, пры абавязковай умове баранаваньня зараз-жа ўсьлед за ворывам, лепш за ўсё ў адным агрэгаце. Глыбіня веснавога ворыва павінна быць ня вышэй 8—10 сантмэтр., бо паглыбленьне ня толькі не павышае, але нават і паніжае ўраджай.

Сёлетняя пасеўная кампанія ўскладае на нас надзвычайна вялікія абавязкі, яна патрабуе напружаньня ўсіх вытворчых магчымасьцяй. Толькі пры захаваньні 6-ці ўмоў т. Сталіна мы зможам „пры даных матар'яльных сродках, на аснове большай эканоміі, лепшага выкарыстаньня вытворчых магчымасьцяй, лепшай мабілізацыі сіл і лепшага практычнага кіраўніцтва даць краіне больш прадукцыі і лепшай якасьці“ (з рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі).

**М. І.**

# Мабілізаваць усе вытворчыя магчымасьці на колькасныя і высока-якасныя паказчыкі ў апрацоўцы глебы

# ВЫВУЧЫМ МІНЭРАЛЬНЫЯ ЎГНАЕНЬНІ

У справе падвышэньня ўраджайнасьці ўнясеньне мінэральных угнаеньняў адыгрывае вялікую ролю. Адначасова з унясеньнем мінэральных угнаеньняў кожны калгасьнік павінен ведаць, пад якія расьліны яго патрэбна ўносіць і як ляпей яго скарыстаць.

У гэтым артыкуле мы разгледзім фасфарытныя ўгнаеньні і іх дзейнічаньне на павышэньне ўраджайнасьці. Фасфарытныя ўгнаеньні адносяцца к няпоўным угнаеньням, таму што ў сваім складзе трымаюць адзін фосфар.

Да фасфарытных угнаеньняў адносяцца: фасфарытная мука, супэрфосфат, касьцяная мука і інш.

**Фасфарытная мука.** Па надворнаму выгляду фасфарытная мука—парашок, які мае шэраваты колер. Фасфарытную муку патрэбна ўжываць на глебах кіслых, як падзолістых, забалочаных, тарфяных. Такое ўнясеньне фасфарытнай мукі залежыць ад таго, што яна ў сваім складзе мае фосфар у надта цяжка растварымым стане. Фасфарытная мука вельмі танна каштуе і яна добра дзейнічае на павышэньне ўраджайнасьці на працягу 4—5 год і больш. Фасфарытная мука добра дзейнічае на павышэньне ўраджайнасьці з торфам. Пры такім унясеньні ў глебу, фасфарытная мука прымешваецца к торфу ў часе яго прыгатаваньня, як угнаеньня. Лепш за ўсё фасфарытную муку ўносіць пад азімыя культуры. Таксама магчыма ўносіць і пад яравыя.

Фасфарытную муку трэба ўносіць у глебу як мага раней. Такое ўнясеньне робіцца для таго, каб перавесьці частку фосфару з дрэнна асваяемага стану ў добры. На адзін *га* плошчы патрэбна ўносіць наступную колькасьць фасфарытнай мукі: калі фасфарытная мука трымае 24 проц. фосфару, патрэбна ўносіць ад 3 да 4 цэнт. на *га*, а калі 18 пр. фосфару, дык ад 5 да 8 цэнт. на 1 *га*.

**Супэрфасфат.** Другім фасфарытным угнаеньнем зьяўляецца супэрфасфат, які трымае ў сваім складзе фосфар. Супэрфасфат па знадворнаму выгляду таксама парашок, але які лепш разбаўляецца ў вадзе, чым фасфарытная мука, таму хутчэй і дзейнічае на расьліну, чым фасфарытная мука.

Супэрфасфат мае цёмна шэры колер. Уносіць супэрфасфату на 1 *га* патрэбна ад 1,5 да 5 цэнт., у залежнасьці ад трыманьня фосфару. Чым фосфару больш, тым менш патрэбна яго ўносіць у глебу і наадварот. Супэрфасфат ляпей уносіць пад азімыя расьліны. Для гэтага ляпей дадаваць супэрфасфат да гною. Пры дабаўцы да гною супэрфасфату патрэбна даваць палавінную дозу. Магчыма супэрфасфат уносіць пад яравыя расьліны, асабліва збожжавыя. Пры ўнясеньні вясною, супэрфасфат патрэбна ўносіць не раней, як за тыдзень да пасеву. Супэрфасфат трэба заворваць на 12—15 сант. Раскідваць трэба супэрфасфат спэцыяльнымі для гэтай мэты тукавымі сеялкамі. Праз тукавую сеялку мы раўнамерна раскідваем угнаеньне на полі.

Дзейнічае супэрфасфат на працягу 3 год і больш.

**Касьцяная мука.** Касьцяная мука зьяўляецца фасфарытным угнаеньнем. Выпрацоўваецца касьцяная мука на заводах з касьцей. Акрамя фосфару, касьцяная мука мае ў сваім складзе і азот. Муку гэту трэба ўносіць у глебу загадзя да пасеву. Лепш касьцяную муку ўносіць пад азімыя культуры, як жыта. Яе ляпей уносіць за 4—8 тыдняў да пасеву і ўжываць на глебах лёгкіх, пясчаных і падзолістых.

Пры ўнясеньні ў глебу, касьцяную муку патрэбна зьмешваць з пяском і потым ужо раскідваць на полі. Пры расходваньні касьцяной мукі без пяску вельмі пыліць. Уносіць на 1 *га* плошчы патрэбна ад 2 да 4 цэнт. у залежнасьці ад якасьці касьцяной мукі.

Аграном **А. М.**

# ШЫРЭЙ ВЫКАРЫСТАЦЬ ТОРФ НА ЎГНАЕНЬНЕ

Торф недастаткова выкарыстоўваецца, як сродак павышэньня ўраджайнасьці. Ня гледзячы на ўсе свае перавагі, тарфяны падсьціл яшчэ не знайшоў масавага ўжываньня ў жывёлагадоўчых саўгасах і калгасах. Між тым шматгадовыя даныя вопытных устаноў і практыка перадавых саўгасаў пераканаўча гавораць за тое, што тарфяны гной эфэктыўней саламянага.

Так, сярэднія пяцігадовыя даныя (1926-1930 г.) Усесаюзнага інстытуту торфу даюць такі малюнак: ураджай збожжа без угнаеньня 13,2 цэнт. з *га*, пры ўнясеньні 36 тон саламянага гною ўраджай павышаецца да 19,4 цэнт з *га* (147 проц.), пры ўнясеньні 36 тон тарфянога гною ўраджай збожжа павышаўся да 21,2 цэнт. з *га* (160 проц.). Такім чынам, аднолькавая колькасьць тарфянага гною давала прыбаўку ў параўнаньні з саламяным гноем на 13 проц.

Асабліва добра ўдавалася на тарфяным гнаі бульба. Так, без угнаеньня ўраджай бульбы складаў 101 цэнт. на *га*. Пры ўгнаеньні саламяным гноем ураджай узрастаў да 140 *цнт* і пры ўнясеньні тэй-жа колькасьці тарфянага гною ўраджай складаў 169 цэнт. на *га*.

Другі від угнаеньня—тарфяныя кампосты, якія атрымліваюцца шляхам зьмешваньня торфу з фасфарытам, попелам, начным золатам.

Па даных Усесаюзнага Тарфянога Інстытута і апорных тарфяных пунктаў кампосты з попелам і фасфарытам (найменш эфэктыўны від кампостаў) даюць прыбаўку да 55 проц. супроць няўгноеных палёў.

Значна эфэктыўней кампосты торфу з начным золатам—торфафекалін. Так, па поўным мінэральным угнаеньні (45 *кг* азоту, 50 *кг* фосфаркай кіслаты і 50 *кг* вокісі кальцыя), атрыманым па даных Інстытуту, ураджай канапель у 32,3 цэнт. саломы, а па торфафекаліях пры ўнясеньні іх у размеры 27 тон на *га* ўраджай павысіўся да 60,3 цэнт. на *га*.

Ня меншай увагі заслугоўвае торф як непасрэднае ўгнаеньне. Унясеньне торфу трэба разглядаць, як адзін з сродкаў мэліярацыі бедных, бясструктурных глеб. Унясеньне торфу паляпшае фізычныя ўласьцівасьці пясчаных і глеістых глеб.

Работа Новазыбкаўскай станцыі, а таксама даныя Інстытута за 1930 год зусім пацьвярджаюць гэтае становішча. Ураджай бульбы па поўных мінэральных угнаеньнях (азот, фосфар, калі) складаў 178 цэнт. з *га*, а па торфу, унесенаму пад збожжа, плюс тое-ж поўнае ўгнаеньне складаў 210 цэнт. на *га*.

**К. А.**

# ШТО ДАЕ ВАПНАВАНЬНЕ ГЛЕБЫ

Зараз, калі перад намі пастаўлена задача ва ўсю шырыню, каб павысіць ураджайнасьць збожжавых культур на 12 проц., тэхкультур (лёну і канапель) на 15 проц., бульбы на 20 проц.—надзвычайна вялікае значэньне набывае вапнаваньне глебы.

Згодна пастановы НКЗ БССР у гэтым годзе павінна быць завапнавана 60 тыс. *га* плошчы, з якіх 32000 *га* ўвесну 1932 году.

Дзякуючы вапнаваньню глебы цяжкія глiністыя глебы робяцца больш рыхлымі і ляпей апрацоўваюцца, што адыгрывае вялікую ролю ў справе накапленьня перагною ў глебе, чым ствараюцца добрыя ўмовы для росту расьлін. Акрамя гэтага, вапна дапамагае пераводу калія і фосфару, якія знаходзяцца ў глебе, з цяжкага ў лёгкарастворны стан, адначасова не дае вымывацца спажыўным матэрыям. Але перад тым, як уносіць вапну ў глебу, патрэбна ведаць, ці патрабуе глеба ўнясеньня вапны, ці не. Перад унясеньнем вапны, глеба павінна быць дасьледвана. Пры дасьледваньні глебы патрэбна адначасова і ўстанавіць дозу ўнясеньня вапны. Калі мы вапну будзем уносіць ня ведаючы глебы, то можам атрымаць замест карысьці страту для гаспадаркі. Для кожнай глебы маецца норма ўнясеньня вапны. Лішнія дозы будуць паніжаць ураджайнасьць расьлін.

Для таго, каб правільна падыйсьці да вапнаваньня глебы, патрэбна ўлічваць, як самую глебу, так і якасьць вапны. Праз вызначэньне кіслотнасьці глебы мы зможам з большай дакладнасьцю вывучыць колькі патрэбна ўносіць вапны ў глебу. У мясцовасьцях з кіслымі падзолістымі глебамі, якія патрабуюць вапнаваньня, вада бывае ў большасьці афарбавана ў чырванаваты колер. Гэты колер паказвае на недахоп вапны ў глебе. У гэтую глебу абавязкова патрэбна ўносіць вапну.

Вызначыць кіслотнасьць глебы можна пры дапамозе лакмусавай паперы. Для гэтага патрэбна ўзяць пробы некалькіх глеб. Пробы гэтыя зьмешваюцца. З зьмешанай глебы патрэбна адважыць 200 грам глебы. З гэтых 200 грам бярэцца 2 чайных лыжкі глебы і ложыцца на чысты спадак. У спадак з глебаю дадаецца хлёрысты натр і ўсе гэта добра перамешваецца. Потым бярэцца сіняя лакмусавая папера і ложыцца адным канцом на глебавую сумесь з рашчынаю хлёрыстага натру. Хлёрысты натр—гэта ёсьць ня што іншае, як сталовая соль, якую мы ўжываем кожны дзень для стравы. Другі канец лакмусавай паперы, які не знаходзіцца ў глебавай сумесі змочваецца дыстыляванай вадой. У такім стане папера застаўляецца на 5—7 хвілін. Праз паказаны тэрмін папера вымаецца, абмочваецца ў рошчыне солі і кладзецца на чыстую белую паперу. Калі сіняя лакмусавая папера пачырванела, дык гэта будзе казаць аб тым, што глеба кіслая і што ў яе патрэбна ўносіць вапну.

Рашчына солі робіцца наступным парадкам: на 1 літр вады патрэбна дадаваць 58 грам хэмічна чыстага хлёрыстага натру (сталовай солі).

Для лёгкіх супясчаных глеб патрэбна 3—3,5 тоны молатага вапняку, для сярэдніх суглінкавых—4—4,5 тоны. Перапаленай вапны патрэбна ўносіць у паўтары разы меней. Мергелю магчыма ўносіць ў 2 разы больш, чым вапняку ці крэйды. Вапна роўнамерна раскідаецца на полі і заворваецца, або забараноўваецца так, каб яна добра перамяшалася з глебаю. Раскідаць вапну патрэбна спэцыяльнымі сеўнікамі. Вапну лепей уносіць за некалькі месяцаў да сяўбы. Пад яравыя культуры лепей уносіць увосень пры зяблевай заворцы, а пры засеве азімых—вапну ўносіць увесну. Пры вапнаваньні глебы вапну можна ўносіць з гноем, торфам. На 1 *га* плошчы гною трэба ўносіць 18 тон, торфу 36 тон. Пры гэтым вапна ўносіцца пры першым ворыве, а гной пры другім.

Аграном А.

# ВОРАГІ ВЫСОКАГА УРАДЖАЮ

**Пырнік звычайны** (Мал. 1)

1. Корань пырніка. 2. Колас. 3. Каласок. 4. Адкрытая кветка. 5. Фальшывы плод.

Распаўсюджан амаль усюды, размнажаецца ў глебе каранямі на глыбіні 15—20 *сант.*





Асноўная мера барацьбы—выцягваньне з глебы карэньняў цяжкімі або пружыновымі культыватарамі ў сухое надвор'е пасьля глыбокага ворыва на 15—20 *сант.* Сабраныя карані звозіць з палёў або спальваць на месцы.

Пырнік добра зьнішчаецца таксама пажніўнай няглыбокай заворкай пэрыядычна, па меры зьяўленьня пасынкаў. Палушчанае поле заворваць з восені.

**Мышак шызы.** (Мал. 2)

1. Каласок. 2. Насеньне мышаку. 3. Насеньне проса.

Распаўсюджан амаль усюды ў вялізарнай колькасьці ў паўсухменных раёнах. Засьмячае ўсе позьнія культуры: проса, суданку, магар і прапашныя, як кукурузу, сланечнік, буракі і інш. Надзвычай разрастаецца па іржышчы. Асабліва моцна засьмячае проса.

Мера барацьбы—лушчэньне іржышча палёў. Пры культуры позьніх расьлін усходы мышаку зьнішчаць паўторнай няглыбокай апрацоўкай да пасева.

# Больш увагі мерапрыемствам па барацьбе з хваробамі лёну

Партыя і Савецкая ўлада вялікую ўвагу зьвяртаюць на пасеў тэхнічных культур і на павялічэньне іх ураджайнасьці. Згодна пастановы ЦК КП(б)Б і Саўнаркома БССР аб правядзеньні веснавой сельскагаспадарчай кампаніі, у гэтым годзе ўраджайнасьць ільну павінна быць павялічана на 15 проц. Такое павялічэньне можа быць зьдзейсьнена праз правядзеньне ўсіх агранамічных мерапрыемстваў па засеву ільну. Таму, павялічэньне ўраджайнасьці ільну, як вядучай тэхнічнай культуры сельскай гаспадаркі ў ільнаводных раёнах БССР, зьяўляецца баявой і неадкладнай задачай. У правядзеньні агратэхнічных мерапрыемстваў, ва ўнясеньні мінэральных угнаеньняў, разьвядзеньні добрага чыстасортнага насеньня вялікую ролю адыгрывае калектыўная і плянавая барацьба з хваробамі ільну.

Пры буйных сацыялістычных гаспадарках патрабуецца ўвядзеньне новых машын, дзякуючы якім магчыма было-б ахапіць як мага большую плошчу. Таму ў сучасны момант пры арганізацыі буйных калгасаў, саўгасаў і МТС барацьба з хваробамі ільну павінна ставіцца ва ўсю шырыню. Патрэбна ведаць, што лён, як і іншыя сельскагаспадарчыя расьліны, паражаецца грыбнымі хваробамі, якія наносяць вялікую страту нашай ільняной гаспадарцы.

Па сярэдняму падліку кожны год хваробы зьнішчаюць 10—15 проц. усяго ўраджаю ільну, а ў некаторыя годы нават яшчэ і больш. Пры вялікім заражэньні ільну грыбнымі хваробамі, даўжыня валакна памяншаецца на адну трэць ці чвэртку даўжыні ў параўнаньні з здаровым валакном. Акрамя таго што валакно хворае мае меншую даўжыню, яно мае і дрэнную якасьць. Насеньне хворага ільну больш шчуплае і мае цьмяны адценак. Кожнаму калгасьніку, саўгасьніку трэба памятаць, што адным з момантаў у падняцьці ўраджайнасьці ільну зьяўляецца пасьпяховая і калектыўная барацьба з грыбнымі хваробамі ільну.

Колькасьць ураджаю залежыць ад якасьці насеньня, а таксама правядзеньня другіх мерапрыемстваў, як сваячасовае веснавая апрацоўка глебы пад лён, унясеньне мінэральных угнаеньняў.

Якая праца павінна быць ускладзена на брыгады па правядзеньні мерапрыемстваў па падрыхтоўцы насеньня ільну да пасеву? Па-першае, патрэбна зрабіць ачыстку ільнянага насенфонду ад сарнякоў, праверыць усходжасьць яго, чыстату, а па-другое, правесьці спробу ці заражана насеньне грыбнымі хваробамі і зрабіць пратручваньне насеньня, калі гэта патрабуецца.

Калі будзе зроблена ачыстка насеньня, патрэбна зрабіць вызначэньне чыстаты насеньня ільну. Трэба мець чыстату насеньня ня менш 97 проц., г. з., што на 100 вагавых частак павінна быць ня больш 3 вагавых частак прымесяй сорных траў. Калі на 100 вагавых частак будзе 10 частак вагавых прымесяй, то тады насеньне ільну патрэбна зноў прапусьціць праз трыер ці ільнатрашчотку. Пасьля ачысткі насеньня ільну патрэбна вызначыць усходжасьць апошняга. Насеньне ільну павінна мець усходжасьць ня менш 95 проц.

Вызначэньне ўраджайнасьці ільну праводзіцца такім чынам: бяруцца невялічкія пробы з розных месц ільнянага насенфонду і добра перамешваюцца, а потым адлічваецца 100 зернят. Гэтыя зерняты завертаюцца ў мяккую анучку і кладуцца ў сподак з вадою. Анучка павінна быць увесь час мокраю. З часу прарастаньня насеньня патрэбна кожны дзень лічыць колькі прарасло; тыя зярняты, што на працягу 10 дзён прарасьлі, лічацца ўсхожымі. Калі на працягу гэтага часу з 100 зернят прарасло 95, то гэта будзе казаць, што ўсходжасьць насеньня 95 проц. Пры гэтым, сподак неабходна ўвесь час трымаць у цёплым памяшканьні. Насеньне не патрэбна заліваць вадою. Пасьля вызначэньня ўсхожасьці насеньня, далей патрэбна зрабіць вызначэньне, ці заражана насеньне ільну хваробамі. Неабходна ў кожным калгасе, саўгасе, пры дапамозе агранома, зрабіць праверку насеньня, каб папярэдзіць засеў хворым насеньнем.

Вызначэньне заражанасьці насеньня праводзіцца такім чынам: бярэцца некалькі проб, зьмешваюцца і потым адлічваецца 200 зярнят. Потым бярэцца сподак і фільтравальная папера. Фільтравальная папера кладзецца ў сподак так, каб канцы яе былі загнуты і спушчаны ў ваду. Сярэдзіна павінна быць узьнята над вадою. Адабранае насеньне кладзецца на сярэдзіну паперы. Сподак з насеньнем ставіцца ў цёплае месца з тэмпэратурай ад 20 да 25° Ц. Воду пры выпараваньні патрэбна дабаўляць. Праз 8—9 дзён на растках насеньня будуць чырвоныя кропкі, рыскі ці белая цьвіль. Такія адзнакі будуць сьведчыць аб тым, што насеньне ільну заражана грыбком. Калі на 100 штук зернят будзе 10—15 пр. хворых, то яго магчыма высеваць, але перад пасевам лепш утвараць пратручваньне яго.

Пратручваньне насеньня лепш утвараць сухім мэтадам таму, што пры мокрым спосабе пратручваньня лён робіцца сьлізкім.

Для сухога пратручваньня ўжываецца парашок АБ. Парашок АБ вельмі ядавіты і мае да 38 проц. вуглякіслай медзі. На 1 тону насеньня патрэбна браць 1 кгр. парашку АБ. Апыленае насеньне немагчыма ўжываць для стравы. Апыльваньне насеньня ўтвараецца ў спэцыяльных машынах для сухога пратручваньня насеньня.

Кожны калгас, саўгас, кожны калгасьнік, рабочы саўгасу павінен вялікую ўвагу зьвярнуць на правядзеньне мерапрыемстваў па барацьбе з хваробамі ільну.

Агpackагаaaa

**Барацьба з хваробамі лёну павінна стаць аднэй з цэнтральных задач у барацьбе за высокі ўраджай**

# ЗБОРУ НАСЕНФОНДАЎ—БАЯВЫЯ ТЭМПЫ!

## БОЛЬШ УВАГІ АГРАТЭХНІЦЫ

(*Магілеўскі раён*)

Па агратэхніцы для павышэньня ўраджайнасьці ў саўгасах і калгасах на Магілеўшчыне яшчэ амаль нічога ня зроблена. На гэтым важнейшым вучастку арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і барацьбы за высокі ўраджай сацыялістычных палёў, нераспачаты край работы.

У мінулым годзе адбылася раённая канфэрэнцыя спэцыялістаў сельскай гаспадаркі, якія для разгортваньня належнай работы высунулі шэраг канкрэтных прапаноў і рэзалюцый, але яны ня былі ператвораны ў баявую праграму дзейнічаньня па прасоўваньні агратэхнікі ў гушчы калгасных мас Магілеўшчыны.

Прагаласавалі, пастанавілі... і пастановы і рэзалюцыі засталіся ў папках раённых арганізацый (РКС і інш.). Таксама няма ніякіх зьвестак аб колькасьці арганізаваных у калгасах раёну агратэхнічных гурткоў. Такое становішча маецца і ў МТС.

Урокі мінулага году ня ўлічаны. Райкалгассаюз, МТС, райза нічога ня робяць па мабілізацыі свайго апарату на гэты адказьнейшы вучастак работы.

Магілеўскі раён заключыў сацумову з Аршанскім на лепшае правядзеньне трэцяй бальшавіцкай вясны, дзе Магілеўшчына абавязалася да 10 сакавіка скончыць ачыстку насеньня, абмен на гатунковае і арганізаваць у 80 калгасах курсы па агратэхніцы. Ачыстка насеньня выкана на 70 проц., а курсаў арганізаваны адзінкі. Магілеўшчына абавязалася вывезьці 144.110 вазоў гною, а вывезена менш 100 тысяч вазоў.

Між тым, яшчэ горш гэтага становішча са складаньнем насенных фондаў па калгасах раёну. Засыпана зернавых культур 81,8 проц., бульбы—62,3 проц., тэхнічных культур—56,4 проц. і вікі—12 проц. Мясцовыя рэсурсы не скарыстоўваюцца. Але разам з гэтым, перадавыя сельсаветы раёну ўжо скончылі засыпку насенных фондаў, як: Вэндараскі, Мастоцкі і Дашкаўскі сельсаветы.

Справа з падрыхтоўкай да сяўбы павінна стаць у цэнтр увагі ўсёй работы раёну.

**Г. М—н.**

## ПА-БАЯВОМУ РЫХТУЕМСЯ ДА СЯЎБЫ

(*Стара-Дароскі раён*)



Рамонт с.-г. інвэнтару ў калгасе „Новы Шлях", Астрашыцка-Гарадоцкага сельсавету.

Саўгас Палажэвічы падрыхтоўку да сяўбы распачаў яшчэ ў студзені месяцы. Па пляну саўгасу патрэбна засеяць 50 *га* аўса, 80 *га* бульбы, 70 *га* грэчкі пад зялёнае ўгнаеньне, 70 *га* канюшыны, 40 *га* сэрадэлі і 15 *га* сілосных культур. Гэты плян абгавораны на вытворчай нарадзе і агульным сходзе рабочых, дзе ўнесена шмат рацыяналізатарскіх прапаноў рабочымі па хутчэйшаму і лепшаму правядзеньню веснавой сяўбы і арганізаваць 15 сакавіка пробны выезд у поле. Кармавы фонд забранціраваны поўнасьцю, насеньне ачышчана, вучнямі школы сабрана 500 *кг* попелу, які яны абавязаліся сабіраць рэгулярна і надалей.

Саўгасныя машыны, трактары і сельскагаспадарчы інвэнтар адрамантаваны поўнасьцю. Конскай цягавай сілай саўгас таксама забясьпечан.

У рабоце па рамонту машын і сельскагаспадарчага інвэнтара асабліва паказалі ўдарныя тэмпы стальмашная і кавальская майстэрні, якія заключылі паміж сабой сацумовы на лепшы і хутчэйшы рамонт машын і сельгаспадарчага інвэнтару. Для лепшых ударнікаў саўгасам вызначана 3 прэміі: боты, чаравікі і касьцюм.

З 17 лютага распачалі працу аднамесячныя курсы рабочых. На агульным сходзе рабочых распрацавана пастанова XVII партканфэрэнцыі, дзе асабліва зацікавіліся рабочыя тэзісамі другой пяцігодкі.

Дрэнна тое, што ні партячэйка, ні дырэкцыя, ні рабачком не пацікавіліся распрацаваць 6 умоў Сталіна, пастанову ЦК і СНК БССР аб веснавой сельскагаспадарчай кампаніі.

Ня ўвязан з падрыхтоўкай конкурс „Праўды" па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў. Упушчанае павінна быць распрацавана.

Па баявому рабочы калектыў сустрэне трэцюю бальшавіцкую вясну і з посьпехам выканае і перавыканае плян.

**М. Шэшка.**

## УЗЯЦЬ УДАРНЫЯ ТЭМПЫ

(*Чэрвеньскі раён*)

Посьпех сяўбы—адна з галоўнейшых умоў пасьпяховага выкананьня пляну чацьвертага заключнага году першай пяцігодкі, адно з самых галоўных зьвеньняў умацаваньня калгасаў, новы ўдар па разьбітаму, але недабітаму яшчэ кулаку.

Аднак падрыхтоўка да сяўбы па раёну разгорнута далёка недастаткова, а ў некаторых сельсаветах зусім слаба. Насенныя фонды на 5 сакавіка па яравых збожжавых культурах у калгасах засыпаны на 95 проц. і страхавы фонд на 69 проц. Па

тэхнічных культурах (лён, каноплі) на 46 проц. і страхавы фонд па гэтых культурах на 21,3 проц. Бульбы засыпана—76,5 проц. і страхавы фонд—48 проц. Па асноўных травах засыпана—вікі 35,9 проц., сэрадэлі—13,4 проц., канюшыны—29 проц.

Зусім дрэнна абстаіць справа з утварэньнем страхавых фондаў насеньня па аднаасобнаму сэктару. Так, з 1.514 *цнт* па пляну засыпана на 5 сакавіка ўсяго толькі 74 *цнт*.

Недапушчальна марудна ідзе рамонт сельскагаспадарчага інвэнтару ў большасьці калгасаў. Плугі і бароны адрамантаваны толькі на 58 проц., вазы—на 29 проц.

Плян завозкі мінэральных угнаеньняў выканан усяго толькі на 19 проц., вапны—на 3,4 проц. Таксама зусім слаба разгорнута вывазка гною. Гной вывезен толькі на 23 проц.

Ачыстка насеньня выканана па раёну на 49,8 проц., што ні ў якім разе нельга лічыць здавальняючым.

Улічваючы такое становішча, райком КП(б)Б камандыраваў раённы актыў у дапамогу сельсаветам і калгасам.

Але поруч з недахопамі шэраг калгасаў раёну паказалі лепшыя прыклады і ўзоры ў падрыхтоўцы да сяўбы. Так, з 86 калгасаў у раёне, 17 калгасаў: „Савецкая Беларусь", „Краіна саветаў", „Завет Леніна", „Сьцяг Кастрычніка", „Калгасьнік Беларусі", „Фрунзе", „Важаты", і інш. скончылі поўнасьцю засыпку насеньня. Больш, як 12 калгасаў засыпалі насеньне на 5 сакавіка на 91 проц. Вельмі дрэнна з засыпкай насеньня абстаіць у калгасах: „Раванічы", „Чырвоная Ніва" і „Перадавік". Гэтыя калгасы амаль не праступілі яшчэ да засыпкі насеньня.

Партыйныя, камсамольскія, савецкія і прафсаюзныя арганізацыі і ўся калгасная сыстэма павінны сапраўды па-ўдарнаму ўзяцца за падрыхтоўку да сяўбы.

**І. П.**

# НОВЫ СПОСАБ ВЫЗНАЧЭНЬНЯ ЎСХОЖАСЬЦІ НАСЕНЬНЯ ІЛЬНУ

Прафэсар Нялюбаў, вучоны спэцыяліст лябараторыі фізіялёгіі расьлін Усесаюзнай акадэміі навук, выпрацаваў новы спосаб вызначэньня ўсхожасьці насеньня.

Гэты спосаб заснован на тым, што мёртвы зародак (няўсхожае семя) афарбоўваецца, усмоктваючы ў сябе фарбу, тады як жывы зародак не афарбоўваецца.

Мэтад заключаецца ў наступным: адлічаныя ад пробы 100 зярнят ільну кладуцца ў ваду, у якой пры тэмпэратуры 30 град. трымаюцца 2—3 гадзіны, а пры пакаёвай тэмпэратуры—18 гадзін. Пасьля гэтага насеньне вымаецца з вады, і з яго асьцярожна іголкамі зьнімаецца абалонка так, каб зародак не пашкодзіць. Вызваленае ад кажуры насеньне кладзецца ў раствор фарбы індыга-кармін (0,2 проц. моцнасьці) пры тэмпэратуры ў 30 град. на 2 гадзіны, а пры пакаёвай—на 4 гадзіны. Насеньне, якое афарбуецца,—мёртвае, а неафарбаванае насеньне—жывое, па ліку якога і вызначаецца ўсхожасьць.

# ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ПЛЯНАЎ ПЛАДОВА-ЯГАДНАЙ ГАСПАДАРКІ

Разгортваньне сацыялістычнай пладова-ягаднай гаспадаркі заключае ў сябе: а) аграмаджаньне існуючых насаджэньняў і б) арганізацыю закладкі новых насаджэньняў у саўгасах і калгасах.

На тэрыторыі Беларусі ў сучасны момант плошча садоў складае каля 30.500 *га* (акрамя гэтага восеньню 1931 году пасаджана пладовых дрэў каля 6.000 *га* і ягадных да 600 *га*). З гэтай колькасьці 30.500 *га*, у пладаносным узросьце пладовых насаджэньняў мы маем прыблізна 22.500 *га*. Штагодняя валавая прадукцыя іх у сярэднім можа быць 135—136 тыс. тон, што вызначае сярэднягадовую норму скарыстаньня 25—27 *кг* пладоў на душу пры агульным нашым насельніцтве ў 5,3 млн.

Але неабходна адзначыць, што ў большасьці нашы сады складаюцца з старых шматгатунковых насаджэньняў, значная частка якіх не адпавядае сучасным запатрабаваньням. Яны раскіданы, рэдкія і не карыстаюцца дастатковым аграномічным абслугоўваньнем і г. д. Некаторы процант іх у бліжэйшыя 5—8 гадоў можа зьнішчыцца. Разьлічваць на значныя магчымасьці ў сэнсе павышэньня норм скарыстаньня пладоў за лік існуючых насаджэньняў, вядома, нам ня прыходзіцца.

Значыць у справе сацыялістычнай рэканструкцыі ў пладова-ягаднай гаспадарцы рашаючым зьяўляецца разгортваньне новых закладак у саўгасах і калгасах, аб'ём і разьвіцьцё якіх павінна знаходзіцца ў адпаведнасьці з будучай роляю пладоў і ягад у харчаваньні працоўнага насельніцтва. З гэтай прычыны перад намі паўстаюць ва ўсю шырыню пытаньні практычнага будаўніцтва буйнай сацыялістычнай пладова ягаднай гаспадаркі ў інтарэсах правільнага і бесьперапыннага снабжэньня садавінай рабочых, забесьпячэньня прамысловасьці і экспарту.

Наогул, вырашэньне праблемы пладаводзтва ў першую чаргу павінна даць магутныя крыніцы палепшаньня рабочага снабжэньня высокакалёрыйным прадуктам, прымаючы да канца другой пяцігодкі арыентыровачна норму ў год 100 *кг* пладоў. Выходзячы з гэтай нормы наша валавая прадукцыя



пладоў і ягад да 1937 г. павінна вызначацца прыблізна ў 700 тыс. тон. Для гэтага нам патрэбна да гэтага часу мець 130—140 тыс. *га* пладовых і ягадных насаджэньняў у пладародным узросьце.

Адсюль становіцца зусім зразумелым, што для рэальнага забесьпячэньня пладамі і ягадамі (у норме 100 *кг*) насельніцтва, нам неабходна зрупаваць асаблівую ўвагу на шырокім разьвіцьці ў першую чаргу хуткавысьпяваючых парод: ягаднікаў, костачкавых, а таксама гатункаў зерняткавых парод, улічваючы іх хуткае высьпяваньне.

Толькі пры шырокім разьвіцьці ў нас хуткасьпелых парод мы сапраўды зможам у бліжэйшы час забясьпечыць паказаную норму спажываньня.

Згодна ўстаноўкі Наркамзему БССР, да 1937 году павінна быць нанава заложана 200—250 тыс. *га* пладовых і ягадных насаджэньняў. Процантныя суадносіны па пародах для нанава закладзеных насаджэньняў на бліжэйшы час павінны быць захаваны арыентыровачна такімі: яблынь—65 проц., вішань—13 проц., груш—7 проц., сьліў—4 проц., чарэшань—1 проц., ягадных—10 проц.

Паколькі плян шырокага будаўніцтва другой пладова-ягаднай пяцігодкі адначасова павінен вырашаць і праблему падняцьця вытворчасьці пладаводзтва, дык усім і кожнаму павінна быць зразумелым, што даную праблему перш за ўсё трэба вырашыць шляхам выбару аб'ектаў культуры, г. зн. гатунку, які і зьяўляецца вытворчай асновай асабліва для такіх культур, як пладовыя і ягадныя.

Для таго, каб нашы новыя насаджэньні былі правільна пабудаваны і зьяўляліся высокагатункавымі, неабходна: а) перайсьці ў сапраўднасьці ад шматгатунковых насаджэньняў да аднатыповых малагатунковых, базуючыся выключна на гатунках высокай якасьці, б) выявіць і ўстанавіць набор стандартных гатункаў, сыстэматычна ўдасканальваючы асартымэнт, які-б задавальняў запатрабаваньні нашага рынку і быў прадметам экспарта.

Улічваючы ўсю важнасьць гатунковага складу насаджэньняў у пладова-ягаднай вытворчасьці, Беларуская вопытна-пладова-ягадная занальная станцыя з моманту сваёй арганізацыі ўдзяліла патрэбную ўвагу данаму пытаньню. Яна шырока занялася гатунковым накапленьнем і іх вывучэньнем з пасьлядоўным прыцягненьнем да гэтай справы шырокіх мас калгасьнікаў і рабочых саўгасаў.



Для гэтага станцыяй уведзен у стандарт БССР рад гатункаў, якія пераважаюць высокімі прамысловымі якасьцямі, напрыклад:

**Амэрыканскі гатунак Уэльсі,** які не баіцца холаду, дае высокі ўраджай і каштоўны якасьцямі плод.

**Антонаўка камянічка** — дастаткова ўрадлівая, з пладамі круглай формы, добрай якасьці, лёгка пераносіць перавозкі.

**Вішня—Пладародная Мічурына**—дае высокі ўраджай і не баіцца холаду ва ўмовах Беларусі.

**Парэчкі—Галяндзкая белая**—дае штогод высокі ўраджай і добрай якасьці плод і інш.

У нашых прамысловых пладова-ягадных насаджэньнях, бязумоўна, гэтыя гатункі павінны атрымаць шырокае распаўсюджаньне.

З вельмі нязначнымі зьменамі ў канчатковым выглядзе для БССР устаноўлен наступны стандартны асартымэнт розных пладовых і ягадных парод:

**Яблыкі**—(зімнія гатункі) — антонаўка-камянічка і звычайная, Бабушкіна Бойкэн, Уэльсі, Славянка-Мічурынская, ранэт залаты Курскі, ранэт Ляндэбэрскі і пэпінка літоўская. Сэзон карыстаньня іх у сьвежым выглядзе, пры нармальных умовах хаваньня, можа быць расьцягнуты на 5—6 месяцаў: з канца кастрычніка да красавіка.

**Асеньнія гатункі:**—Штрэйфлінг, Пуцінка, Серынка, Баравінка, Карычнае паласатае і ананаснае. Сэзон карыстаньня—3,5—4 м-цы: канец верасьня да студзеня.

**Летнія гатункі:**—Папяроўка (прыбалтыцкі белы наліў), Сунсьлепскае, Грушаўка маскоўская, Кітайка залатая Мічурына. Сэзон карыстаньня 2—2,5 месяцы: з жніўня да кастрычніка.

**Грушы** (асеньнія гатункі):—Вінёўка, Бэра слуцкая, Бэра зімовая Мічурына, Александраўка (Магілеўская), Лясная красуля і Бергамот чырвоны асеньні. Сэзон карыстаньня ў сьвежым выглядзе 2,5—3 месяцы: з верасьня па сьнежань.

**Летнія гатункі:**—Бесьсямянка, Сапяжанка, Ільлінка, Любіміца Клаппа, Панна і Дуля остзэйская. Карыстаньне ў сьвежым выглядзе 1,5—2 месяцы: з ліпеня па верасень.

**Сьлівы:**—Ачакоўская белая. Дзюк Эдзінбургскі, Венгерка звычайная, Рэнклод зялёны, Яічная жоўтая і зімовая чырвоная. Тэрмін карыстаньня 1,5—2 месяцы: жнівень—верасень.

**Вішні:** — Любская, Уладзімерская-Радзіцелева, Грыот Остгэймскі, Пладародная Мічурына, Раньняя Шпанка і Грыот мясцовы. Тэрмін карыстаньня ў сьвежым выглядзе 2,5—3 месяцы: з канца чэрвеня да верасьня.



**Чарэшні:**—Первянец Мічурына, Драгана жоўтая, Чырвоная Пашкевіча і Румяныя шчокі. Сэзон каля 1—1,5 месяца: канец чэрвеня да жніўня.

**Земляніка:**—Дэйч Эвэрн (Рошчынская), Вікторыя (Прынцэса), Шарплес, Саксонка. Сэзон карыстаньня 1—1,5 месяца: з паловы чэрвеня да канца ліпена.

**Маліна:**—Мальбаро, Усанка, Фастольф і Кутбэрт. Тэрмін карыстаньня 1—1,5 месяца: у ліпені і жніўні.

**Агрэст:**—Амэрыканскі горны, Авэнарыус, Варшаўскі і Ангельскі жоўты.

**Парэчкі чорныя:**—Лія пладародная, Неапалітанская, Чорны вінаград.

**Парэчкі чырвоныя:**—Галяндзкая чырвоная.

**Парэчкі белыя:**—Вэрсальская белая і Галяндзкая белая.

Бязумоўна, што зьдзейсьненьне гэтага стандартнага асартымэнту павінна ўключыць у сябе: а) законадаўчыя акты, якія абавязваюць разводзіць толькі стандартныя гатункі; б) выдзяленьне матачных фондаў гэтых гатункаў для выхавальнікаў, якія вырасьліваюць пасадачны матар'ял; в) перааправоўку нашага таварнага стандарта пладоў і пабудову яго на аснове зацьверджанага стандартнага асартымэнта.

**А. Сюбараў.**

**Змагацца за калгасныя кадры**

# Як прапрацоўваць заданьне завочніку

**(Тэма другая)**

Для таго, каб прапрацоўка заданьня праводзілася больш пасьпяхова, каб пры мінімальнай затраце часу атрымаць максымальныя вынікі,—завочнік павінен навучыцца працаваць над кнігай.

Раней чым пачынаць чытаць кнігу, трэба азнаёміцца з ёю. Трэба паглядзець хто аўтар кнігі, яе зьмест, прачытаць прадмову, паглядзець малюнкі, шрыфт і г. д. Прапрацоўку заданьня неабходна весьці ў наступным парадку: 1) азнаямленьне з заданьнем; 2) прапрацоўка асноўнага навучальнага матар'ялу; 3) прапрацоўка дадатковай літаратуры (калі аб гэтым будзе зазначана ў заданьні); 4) выкананьне практычных работ і досьледаў; 5) адказы на запытаньні для самаправеркі; 6) пісьмовыя адказы на кантрольныя запытаньні.

**Азнаямленьне з заданьнем.** Перш за ўсё трэба пазнаёміцца з тэмай. Трэба яскрава ўявіць сабе назву таго пытаньня, якое даецца на разгляд у заданьні. Назва тэмы, аднак, яшчэ не дае поўнага ўяўленьня аб тых паасобных пытаньнях, на якія падзяляецца. Таму трэба паглядзець зьмест заданьня, пазнаёміцца з мэтай заданьня, плянам яго прапрацоўкі і, асабліва, з мэтадычнымі паказаньнямі, у якіх сказана аб тым, як прапрацоўваць заданьне, якія і як прарабіць досьледы, назіраньні і г. д.

Калі адначасова з заданьнем прысланы лісты ад завочнага сэктару—іх трэба ўважліва прачытаць, у іх, магчыма, дадаткова гаворыцца аб тым, як трэба прапрацоўваць заданьне.

Такое, вось, папярэдняе азнаямленьне з заданьнем абавязкова патрэбна рабіць. Яно дапаможа скласьці плян прапрацоўкі заданьня, сканцэнтраваць увагу на пэўных пытаньнях і вытворчых працэсах, якія асьвятляюцца ў заданьні, падабраць патрэбны матар'ял. Часу на ўсё гэта пойдзе ня больш 10—15 хвілін.

Завочныя сэктары вызначаюць на заданьні, або ў асобным лісьце тэрмін прапрацоўкі заданьня. Выходзячы з вызначанага тэрміну завочнік павінен разьмеркаваць свой час так, каб скончыць прапрацоўку заданьня своечасова. Пры гэтым трэба ўлічыць ня толькі прапрацоўку тэксту, але і пастаноўку досьледаў, рашэньне практычных задач і г. д. (калі гэта патрабуецца заданьнем).

**Прапрацоўка заданьня.** Раней чым пачаць распрацоўку тэксту заданьня, ці паасобных яго разьдзелаў, трэба ўспомніць усё тое, што ведаеш па гэтым пытаньні (з практыкі, з кніг, газэт і г. д.)—гэта паскорыць прапрацоўку заданьня, дапаможа больш крытычна аднесіцца да таго, аб чым чытаеш. Чытаць трэба ўсё заданьне не прапускаючы нічога, за выключэньнем тых выпадкаў, калі завочным сэктарам будуць зазначаны тыя месцы, якія прапрацоўваць неабавязкова. Кожнае заданьне трэба прачытаць 2—3 разы.

Лепш за ўсё будзе, калі першы раз завочнік прачытае ўсё заданьне ад пачатку да канца, не затрымліваючыся асабліва на цяжкіх мясцох, а толькі адзначаючы іх алоўкам. Трэба, аднак, памятаць, што ў чужой кнізе нельга рабіць ніякіх падкрэсьліваньняў і паметак. Калі пасьля першага чытаньня галоўная думка аўтара засталася незразумелай—трэба прачытаць яшчэ раз і толькі пасьля гэтага прыступіць да падрабязнай прапрацоўкі аднаго разьдзела за другім.

Па некаторых дысцыплінах, як матэматыка, хэмія і інш., наогул па тых дысцыплінах, дзе маюцца формулы і задачы і дзе тэкст толькі паясьняе формулы, няма ніякага сэнсу прачытваць першы раз заданьне ад пачатку да канца, таму што незразумеўшы як сьлед папярэдняй формулы або задачы, нельга зразумець далейшую. Тут неабходна адразу, пасьля азнаямленьня з заданьнем вывучаць пасьлядоўна адзін пункт за другім. Пры чым формулы і задачы трэба ня толькі прачытваць, але і абавязкова іх самому прапрацоўваць.

Чытаць трэба ўдумлiва, не сьпяшаючыся, канцэнтруючы ўсю ўвагу над тым, аб чым чытаеш. Трэба ўчытвацца ў кожную фразу і імкнуцца зразумець ня толькі словы, але і самую думку аўтара. Да вывучаемага матар'ялу трэба аднесіцца крытычна, гэта значыць, правяраць аўтара. Калі ў чым не згаджаешся з аўтарам—пастаў з боку кнігі пытальнік, а потым правер аўтара іншай кнігай, або уласным вопытам, або запытай у кансультанта, ці ў завочным сэктары. На больш цяжкія месцы і незразумелыя словы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу і пастарацца іх высьвятліць самастойна. Толькі пры немажлівасьці самому разабрацца—трэба зьвяртацца за кансультацыяй. Незразумелыя словы, часьцей усяго замежныя, трэба высьвятляць па слоўніку замежных слоў. Часта замежныя словы паясьняюцца

ўнізе тэй старонкі, на якой яно сустрэлася, або ў канцы кнігі.

Малюнкі і асабліва рысункі трэба ня толькі дэталёва праглядзець, але і самаму прарабіць. Гэта надта дапамагае засвойваньню прадмета.

**Сувязь з вытворчасьцю.** Як-бы добра не прапрацаваў матар'ял заданьня—гэтага яшчэ мала—толькі кнігаю нельга абмяжоўвацца, патрэбны яшчэ досьледы, нагляданьні і практычнае рашэньне задач. Досьледы і задачы, якія праводзяцца завочнікам на вытворчасьці ў канкрэтных умовах, маюць надзвычай вялікае значэньне і таму ўсе яны павінны выконвацца. Прапрацоўка кожнага заданьня павінна быць шчыльна ўвязана з вытворчасьцю і павярацца вытворчасьцю; здабытыя веды павінны скарыстоўвацца ў вытворчасьці. Кожны завочнік павінен энэргічна садзейнічаць падвядзеньню навуковай базы пад арганізацыю сваёй вытворчасьці; унядрэньню навуковых асноў у вытворчую практыку; садзейнічаць рацыяналізацыі і паляпшэньню мэтадаў працы, працаваць па-ўдарнаму для больш пасьпяховага разьвіцьця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Толькі такім чынам можна найбольш пасьпяхова засвоіць вывучаемы курс. Неабходна імкнуцца скарыстоўваць усялякія мажлівасьці для высьвятленьня таго ці іншага пытаньня. Некаторыя, найбольш простыя досьледы, завочнік можа прарабіць нават у хатняй абстаноўцы, напр., з расьлінамі, шасьціножкамі і інш. Прапрацоўка заданьня, а асабліва пастаноўка досьледаў значна палягчаецца пры працы ў брыгадзе.

Завочнік павінен, аднак, памятаць, што калектыўная вучоба патрабуе і самастойнай прапрацоўкі заданьня і што індывідуальная праца найбольш пасьпяховая ў тым выпадку, калі яна замацоўваецца калектыўнымі заняткамі. Умовай для пасьпяховай працы брыгады—зьяўляецца абавязковая папярэдняя індывідуальная прапрацоўка заданьняў.

Прапрацоўка заданьня павінна суправаджацца вядзеньнем запісу ўсяго таго, што спыняе ўвагу: вывады аўтара, спрэчныя пытаньні, уласныя думкі завочніка, незразумелыя словы і г. д. Запісваньне завастрае ўвагу, дысцыплінуе, прывучае ўлаўліваць самую сутнасьць вывучаемага матар'ялу, дапамагае лепшаму засвойваньню матар'яла.

Надзвычай карысна складаньне канспэкта. Ён прывучае аддзяляць асноўнае ад другараднага, дае навык да сьціслага і дакладнага выразу сваіх думак, садзейнічае найбольш поўнаму разуменьню і засвойваньню кнігі. Канспэкт павінен адбіваць асноўны плян кнігі, галоўнейшыя думкі аўтара. Больш падрабязна аб вядзеньні канспэкту будзе сказана ў адным з наступных артыкулаў.

**Запытаньні для самаправеркі.** Пасьля прапрацоўкі тэксту заданьня і дадатковай літаратуры неабходна зьвярнуцца да запытаньняў для самаправеркі. Адказы на гэтыя запытаньні не пасылаюцца ў сэктар. Па ім завочнік павярае самога сябе, наколькі ён засвоіў вывучаемы матар'ял. На кожнае запытаньне трэба даць яскравы і вычарпальны адказ—пісьмовы ці вусны, гледзячы па запытаньню. Калі на якое запытаньне завочнік ня зможа адказаць, або адказвае няпоўна—трэба гэтае месца яшчэ раз прачытаць у заданьні, або ў дадатковай літаратуры. Калі і пасьля гэтага яна ўдасца высьветліць—трэба паставіць яго на абгаварэньне брыгады, або зьвярнуцца да кансультанта, ці ў завочны сэктар.

**Складаньне пісьмовай працы.** З мэтай падвядзеньня вынікаў прапрацоўкі заданьня, ці некалькіх заданьняў па адной дысцыпліне—завочнік складае пісьмовую працу на зададную тэму і пасылае яе ў завочны сэктар на рэцэнзію. Пісьмовая праца не зьяўляецца экзаменацыйнай—гэта чыста вучэбная праца, на падставе якой завочны сэктар дапамагае завочніку ў яго далейшай вучобе. У заданьні можа быць зазначана некалькі тэм з тым, каб завочнік мог выбраць тую тэму, якая яму больш падыходзіць у сэнсе наяўнасьці матар'ялу. Такім матар'ялам могуць зьяўляцца—заметкі, выпіскі з кніг, газэт, матар'ялы з вытворчасьці, даныя праведзеных досьледаў і г. д. Пры складаньні пісьмовай працы прыдзецца мо'яшчэ раз праглядзець тое, што здавалася яскравым, зьвярнуцца да кансультанта, прадумаць. У гэтым і каштоўнасьць пісьмовых прац, што яны мабілізуюць усе веды, прывучаюць зьвязваць адно з другім, прывучаюць самастойна працаваць над кнігай, над сырым матар'ялам. Гэта, аднак, ня значыць, што завочнік павінен пісаць аб усім, што ведае. Трэба даць канкрэтныя адказы на канкрэтныя запытаньні. Пісьмовая праца складаецца кожным завочнікам паасобку. Складаньне яе палягчаецца тым, што даецца ня толькі тэма, але і кантрольныя запытаньні да тэмы. Завочніку застаецца даць адказы на гэтыя запытаньні ў тым парадку, у якім яны зазначаны ў заданьні. Пры чым, саміх запытаньняў можна і ня пісаць, а толькі зазначыць іх парадкавым нумарам. Калі якое пытаньне будзе незразумелым—можна на яго не адказваць. Напісаўшы работу трэба яе прачытаць, лепш усяго ўголас, пры гэтым шмат памылак будзе выяўлена. Па такіх дысцыплінах, як матэматыка, фізыка, хэмія і інш. будуць давацца кантрольныя задачы, якія завочнік павінен рашыць. Тут трэба даваць ня толькі вынікі рашэньня задачы, але і ўвесь ход рашэньня, усе паралічэньні, каб рэцэнзэнт мог сачыць за рашэньнем задачы. Калі рашэньне якой-небудзь задачы не даведзена да канца, або атрымаўся ня той вынік, які патрэбны згодна ўмовы задачы,—яна таксама поўнасьцю, са ўсімі вылічэньнямі прысылаецца ў завочны сэктар.

**Адсылка пісьмовай працы.** Пры адсылцы пісьмовай працы неабходна прытрымлівацца наступнага: у загалоўку кожнай пісьмовай працы абавязкова павінна быць зазначана: № пасьведчаньня завочніка, выданага завочным сэктарам, прозьвішча, імя і імя па бацьку, прадмет і № заданьня. Напрыклад: № 345, Краўцоў Іван Рыгораў, „Культура лёну“, заданьне № 2.

Пісьмовыя працы пісаць абавязкова выразна і акуратна; з левага боку ліста застаўляць месца—шырынёю ў 3 *сант.* для паправак і заўваг рэцэнзэнта. Няправільна напісанае трэба зачыркнуць, а ня сьціраць. Неабходна нумараваць старонкі і скрапляць лісты. Не спалучаць у адным аркушы паперы некалькіх тэм, таму што розныя тэмы даюцца розным рэцэнзэнтам. У тэксьце пісьмовай працы не зьмяшчаць нічога, што не датычыцца тэмы. Пабочныя пытаньні трэба пісаць на асобных лістках паперы. Адсылаць пісьмовую працу ў канвэртах з адрэзанымі вугламі. На канвэрце, унізе зрабіць надпіс: „Перасылаецца па ільготнаму тарыфу на падставе цыркуляра НКП і Т ад 12-XII-27 г. № 37/435“ і ніжэй гэтага зазначыць свой адрас і прозьвішча.

**В. Крэйдзіч.**

# БОЛЬШ УВАГІ АХОВЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЎРАДЖАЮ САДОЎНІЦТВА

У нас па БССР заражана каля 30 проц. садовай плошчы шкоднікамі. Таму, правядзеньне барацьбы па ахове сацыялістычнага ўраджаю, гэта ёсьць ня што іншае, як барацьба за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Яшчэ шмат працаўнікоў лічаць, што барацьба са шкоднікамі сельскай гаспадаркі ёсьць мерапрыемствы вузка-агранамічнага напрамку. Такая думка зусім няправільная, не бальшавіцкая. Некаторыя навукова-дасьледчыя інстытуты ў справе аховы сацураджаю да гэтага часу ўвязвалі свае дасягненьні з сацыялістычнаю стройкаю сельскай гаспадаркі. Шмат буйных сацыялістычных гаспадарак ня ўвязвалі барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі з нашым сацыялістычным будаўніцтвам, праводзілі барацьбу са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, як арганічнае мерапрыемства. А такая праца была накіравана выключна на ўмацаваньне індывідуальнай гаспадаркі.

Усё гэта мела адмоўны адбітак у справе разьвіцьця барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. У нас ёсьць усе магчымасьці для пасьпяховага правядзеньня барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, якіх нават ня мае ні Амэрыка, ні Нямеччына. Толькі ва ўмовах плянавай сацыялістычнай гаспадаркі магчыма правільна праводзіць барацьбу са шкоднікамі садоўніцтва.

Пытаньні аховы сацыялістычнага ўраджаю мы павінны ставіць, як пытаньні будоўлі сацыялізму ў сельскай гаспадарцы. Адначасова з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў мы павінны будаваць базу для работы ў справе барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва.

У сучасны момант па Саюзу адчуваецца вялікі недахоп кадраў па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі Асабліва вялікі недахоп кадраў адчуваецца ў БССР. У нас няма ніводнага Вуз'а, які-б падрыхтоўваў людзей для работы ва ўмовах БССР па ахове сацыялістычнага ўраджаю. У мінулым годзе быў у Віцебску адчынен тэхнікум па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, які дасьць толькі ў 1933 годзе каля 40 тэхнікаў па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Гэтая колькасьць кадраў вельмі малая, для таго, каб ахапіць усе работы па ахове сацураджаю. Таму вялікая ўвага зараз павінна быць зьвернута на падрыхтоўку кадраў праз каротка-тэрміновыя курсы.

Адным з дрэнных бакоў трэба адзначыць тое, што яшчэ шмат некаторыя працаўнікі не дааццэньваюць важнасьці правядзеньня барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва мэханічнымі мэтадамі. Трэба памятаць, што нашая хэмічная прамысловасьць у тым годзе забясьпечыць хэмічнымі сродкамі толькі 30 проц. усяго намечанага пляну па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Вось па гэтаму вялікая ўвага ў сучасны момант павінна быць зьвернута на разьвіцьцё мэханічных мэтадаў. Патрабаваньне ў справе пераключэньня ўсіх работ на высокую тэхніку—ёсьць патрабаваньне зьнізіць тэмпы работы па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. З такімі думкамі трэба заўсёды весьці самую рашучую барацьбу.

Да 1930 году ўсю працу ў БССР па барацьбе са шкоднікамі садоўніцтва праводзілі Асоавіяхім сумесна з земаддзеламі. Адзінага плянавага кіраўніцтва ў саюзным маштабе ня было, чаму патрабаваньні ў справе барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва вельмі адставалі ад патрэбнасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Таму для адзінага плянаваньня і правядзеньня барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі саюзным НКЗ у 1930 годзе арганізавана было акцыянэрнае таварыства, якое рэарганізавана ў мінулым годзе ва Ўсесаюзнае дзяржаўнае аб'яднаньне па барацьбе са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі „АБШ“.

З арганізацыяй АБШ, адразу была зроблена перабудова працы станцый аховы расьлін (СТАЗР) і стварэньне замест іх міжраённых станцый па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Міжраённыя станцыі пабудаваны па прынцыпу машына-трактарных станцый. У БССР маецца 11 станцый па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, якія ахопліваюць усе раёны БССР. Але ўсяе працы ў сучасны момант АБШ ня зможа ахапіць, па гэтаму на дапамогу павінен прысьці Асоавіяхім, які ўжо ў гэтым напрамку мае значны вопыт.

У 1931 годзе Беларуская арганізацыя Асоавіяхіму мела 198 добраахвотных атрадаў па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Было ўцягнута ў практычную справу да 10.000 чалавек. Апрацавана 1.100 *га* садовай плошчы ад шкоднікаў.

Для кіраваньня справай правядзеньня барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі ў мінулым годзе было падрыхтавана праз кароткатэрміновыя курсы 980 брыгадзіраў і рабочых па барацьбе са шкоднікамі.

Адначасова праводзячы практычную работу праведзена вялікая масава-агітацыйная работа па барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі (выпуск лістовак, чытка дакладаў, лекцый і інш.).

У гэтым годзе ў справе барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва пастаўлены яшчэ большыя задачы. Згодна пляну АБШ у гэтым годзе павінна быць апрацавана 21.000 *га* садовай плошчы па БССР.

Па лініі Асоавіяхіму павінна быць падрыхтавана 8.000 калгасьнікаў і саўгасьнікаў па хэмізацыі сельскай гаспадаркі.

Выкананьне пастаўленых задач патрабуе мабілізацыі ўсёй грамадзкасьці. Кожная ячэйка Асоавіяхіму ў калгасе, саўгасе павінна ў свой плян работы абавязкова ўвесьці правядзеньне барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва, стварыць гурткі па вывучэньню шкоднікаў садоўніцтва, правесьці рамонт інвэнтару. Толькі праз вывучэньне шкоднікаў садоўніцтва, праз добрую падрыхтоўку мерапрыемстваў па правядзеньню барацьбы са шкоднікамі садоўніцтва мы вясною сустрэнем шкодніка саду ўзброенымі і пры зьяўленьні зьнішчым яго. Не дадзім шкоднікам саду прыносіць кожны год 50 мільёнаў руб. страты.

**А.**

Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 666. 1.600 экз. Галоўлітбел № 377




| | | | |
|---|---|---|---|
| На 12 мес. | —24 нумары | 3 р. | |
| „ 6 „ | —12 „ | 1 р. | 50 к. |
| „ 3 „ | 6 „ | — | 75 к. |
| „ 1 „ | 2 „ | — | 25 к. |

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ

Адрас рэдакцыі часопісу: